*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 2 верасня 1988 г. № 35 (3445) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

Мікола Селяшчук — мастак, імя і творчасць якога знаходзяцца ў цэнтры ўвагі крытыкі і аматараў мастацтва літаральна з таго моманту, як ягоныя станковыя работы ўпершыню з'явіліся на выстаўках, а ілюстраваныя ім кнігі на паліцах кнігарань. Графічныя аркушы і палотны Селешчука неаднойчы прадстаўлялі Беларусь за межамі рэспублікі і краіны.

Многім памятная групавая выстаўка, што праходзіла ў 1985 годзе ў выставачнай зале на праспекце Машэрава. Сёлета група мастакоў амаль у тым жа складзе зноў ладзіць экспазіцыю ў той жа зале. Выстаўка адкрыецца ў сярэдзіне верасня. Будуць на ёй і новыя творы Міколы Селешчука.

Фота А. КАЛЯДЫ.

## ВЫСОКІЯ ЎЗНАГАРОДЫ РАДЗІМЫ

**Як паведамлялася ўжо, за дасягненне высокіх вынікаў у павелічэнні вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі на аснове асваення інтэнсіўных тэхналогій і перадавых метадаў арганізацыі працы ў земляробстве і жывёлагадоўлі Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР Указам ад 17 жніўня г. г. узнагародзіў ордэнамі і медалямі вялікую групу перадавікоў аграпрамысловага комплексу нашай рэспублікі, якія найбольш вызначыліся.**

Сярод узнагароджаных **ордэнам Леніна** па Брэсцкай вобласці: Л. В. Васілеўская — даярка калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна, І. П. Вышынскі — трактарыст племзавода «Прамень», Бярозаўскі раён, Ф. В. Лазнуха — трактарыст калгаса імя Леніна Столінскага раёна, І. М. Чырко — старшыня калгаса «Расія» Івацэвіцкага раёна; па Віцебскай вобласці: А. С. Валянтовіч — трактарыст калгаса імя Леніна Талачынскага раёна, М. Ф. Гардзееў — звеннявы калгаса імя Леніна Талачынскага раёна, І. І. Сінкевіч — начальнік вытворчага ўчастка калгаса «Парыжская камуна» Міёрскага раёна; па Гомельскай вобласці: У. К. Дамасканаў — звеннявы калгаса «Юбілейны» Чачэрскага раёна, Н. В. Краўцова — даярка саўгаса «Брылёва» Гомельскага раёна, М. Р. Марчанка — вадзіцель аўтамабіля калгаса імя Леніна Буда-Кашалёўскага раёна, І. П. Ус — трактарыст калгаса «XXI з'езд КПСС» Рэчыцкага раёна; па Гродзенскай вобласці: В. І. Крамко — старшыня калгаса «Кастрычнік» Гродзенскага раёна, А. С. Цяслаўскі — трактарыст-машыніст калгаса імя С. О. Прытыцкага Бераставіцкага раёна, У. М. Улановіч — свінарка калгаса імя Карбышава Мастоўскага раёна, Н. А. Юсько — аператар па гадоўлі парасят калгаса імя Чкалава Свіслацкага раёна; па Мінскай вобласці: А. А. Бабейка — трактарыст калгаса «Семежава» Капыльскага раёна, Г. У. Ермаковіч — даярка калгаса «Нёман» Стаўбцоўскага раёна, А. Г. Максімовіч — дырэктар Гарадзейскага цукровага камбіната, Нясвіжскі раён, Л. М. Савановіч — старшыня калгаса імя Арджанікідзе Слуцкага раёна; па Магілёўскай вобласці: У. Ф. Комар — брыгадзір Магілёўскага саўгаса-тэхнікума, Клічаўскі раён, А. І. Кунц — трактарыст саўгаса «Доўнічава» Бабруйскага раёна, У. І. Роўбель — старшыня калгаса «Чырвоны сцяг» Асіповіцкага раёна.

(Заканчэнне на стар. 2).

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

гэтага выдатнага чалавека, які, нягледзячы на ўсю занятасць, знаходзіў час, каб пабыць з сябрамі сына. Мала таго, ён нават вучыў катацца на сваім веласіпедзе мяне і майго малодшага брата. Ён заўсёды з павагай ставіўся да нас, дзяцей.

Добра помню, як самотна стала на нашай пляцоўцы, у нашым пад'ездзе, калі, па незразумелай для нас прычыне, раптам не стала ў доме ўсёй сям'і Жылуновічаў. Пра іх ніхто не ўспамінаў, а на нашы дзіцячыя пытанні пра лёс суседзяў ніхто нам толкам не адказваў...

На жаль, і мы, для каго творчасць Цішкі Гартнага забаронена было вывучаць у школе і ВНУ, і маладое наша пакаленне зусім нямнога ведаем пра гэтага выдатнага пісьменніка і грамадскага дзеяча Беларусі.

Сёння ж трэба несці ягоную спадчыну ў народ, увекавечыць імя Цішкі Гартнага з усёй адказнасцю перад памяццю гэтага чалавека, перад заўтрашнім днём нашай культуры.

**М. НАВІЦКІ,**
**ветэран вайны.**

г. Мінск.

●

20 ЖНІЎНЯ, у суботу, да мастачкі В. Якімовіч, выкладчыцы малявання адной з мінскіх школ, якая жыве на вуліцы Адзінцова, прыйшлі госці. Сабраліся разам добрыя знаёмыя, сябры-аднадумцы. Сабраліся пасля летніх раз'ездаў, каб пабачыцца, пагаварыць пра тое, што баліць, хвалюе. Былі тут і «нефармалы» — прадстаўнікі «Тутэйшых», некалькі «талакоўцаў», маладыя мастакі, навукоўцы... Запрасілі і «фармалаў»—інструктара ЦК ЛКСМБ В. Астроўскага і карэспандэнта БЕЛТА П. Марцава.

Званок у дзверы. Новыя госці. Нечаканыя. Міліцыя. Кажа:

— Нам пазванілі па «02», у вас парушаецца грамадскі парадак — гучна спяваеце.

На гадзінніку — 14.30.

— Хто пазваніў?

— Не ведаем. Звярніцеся па «02», спытайцеся самі.

Сярод «гасцей» — старшы ўчастковы інспектар Фрунзенскага РАУС маёр Яфімчанка Я. М. Разам з ім увайшлі, не апраўдаўшы сваё з'яўленне ў кватэры ніякім дакументам, работнік УУС маёр Трусевіч Г. С., яшчэ адзін маёр міліцыі і супрацоўнік у цывільным з фотаапаратам і дыктафонам.

На беззаконнае, лічым, уварванне адказваем пасіўным супраціўленнем — не паказваем участковаму інспектару дакументаў. Пагаджаемся, нарэшце, на тым, што вось прыйдзе гаспадыня, якая выйшла на хвіліну ў магазін, засведчыць, што ведае нас, што мы не злодзеі, не рабаўнікі і не распуснікі, у выпадку сумненняў мы прад'явім дакументы—і прыязна развітаемся.

Вяртаецца гаспадыня. Пацвердзіўшы, што ўсе мы — яе госці, яна просіць супрацоўнікаў міліцыі пакінуць яе кватэру. Але тых ужо зусім не цікавіць, ведае нас гаспадыня або не. Яны пачынаюць горача даводзіць Валянціне, што тут не госці, а «какое-то сборище», і прапануюць: «Пройдёмте...» Гаспадыня адмаўляецца.

І тады, пасля запрашэння невядомага нам маёра, у кватэру ўваходзіць намеснік начальніка УУС Мінгарвыканкома падпалкоўнік Макееў В. С. Ён загадаў вывесці нас на вуліцу, дзе ля пад'езда стаяла некалькі міліцэйскіх машын. За тры рэйсы гасцей Валянціны Якімовіч разам з ёй самою даставілі ў Фрунзенскі раённы аддзел унутраных спраў.

Варта адзначыць, што там супрацоўнікі паставіліся да «злачынцаў» выключна карэктна і нават прыязна. Былі акуратна спісаны нашы сведчанні-тлумачэнні і складзены пратаколы. Як высветлілася, кожны з нас «прымаў удзел у недазволеным пасяджэнні клуба «Талака» і тым самым парушаў устаноўлены парадак правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый. Справа перададзена на разгляд адміністрацыйнай камісіі выканкома...

Нямала абураныя гэтым здарэннем, мы вярнуліся да нашай астылай бульбы, каб падзяліцца сумнымі развагамі і скласці вось гэты ліст (цяпер нам чамусьці ніхто не перашкаджаў). У чым наша віна? Няўжо словы аб дэмакратызацыі грамадскага жыцця, аб сацыяльнай актыўнасці, чалавечай годнасці — толькі словы, а беззаконне і самаўпраўства не адыходзяць у нябыт? Хто адкажа на гэтыя пытанні?

**С. ВІТУШКА,** студэнт; **В. ВЯЧОРКА,** выкладчык; **Ж. ГРЫГОР'ЕВА,** студэнтка; **С. ДУБАВЕЦ,** журналіст; **А. КОСТКА,** мастак; **Г. САГАНОВІЧ,** археолаг; **С. СОКАЛАЎ-ВОЮШ,** настаўнік; **А. СУША,** супрацоўнік выдавецтва БелСЭ, **В. ХРАМЦОЎ,** рабочы; **С. ШУПА,** перакладчык і іншыя, усяго 18 подпісаў.

**АД РЭДАКЦЫІ. Мы, не можам узяць на сябе адказнасць расставіць акцэнты ў гісторыі, расказанай нашымі чытачамі, таму што рэдакцыі сёння невядомыя ўсе абставіны здарэння на вуліцы Адзінцова.**

**Друкуючы чытацкі ліст, мы зыходзім з тых меркаванняў, што ў ім закранаюцца праблемы, якія цяпер знаходзяцца ў цэнтры грамадскай увагі і ў якіх яшчэ шмат нявысветленага. Напрыклад, адказваючы нядаўна на пытанні газеты «Известия» (27 жніўня г. г.) міністр юстыцыі СССР Б. В. Краўцоў зазначыў: «Новыя абставіны нашага грамадска-палітычнага жыцця ставяць перад намі шэраг зусім новых і нечаканых задач. Ствараючы новыя прававыя акты, мы нярэдка бачым неўзабаве, што яны вымагаюць удакладнення і ўдасканалення... Гэта сведчыць аб тым, што мы набываем неабходную гнуткасць, пазбаўляемся застойных з'яў. Мы, юрысты, павінны дапамагчы нашаму грамадству ў пераадоленні падобных цяжкасцей на шляху ўмацавання прававой дзяржавы».**

**Што тычыцца змешчанага ліста, дык рэдакцыя мае намер больш падрабязна звярнуцца да ўзнятай у ім тэмы.**

# МІНСКІ ПЛЕНЭР

**21 жніўня ў Мінску ўпершыню адкрыўся скульптурны пленэр. У ім прымаюць удзел Э. Астаф'еў, А. Фінскі, Л. Зільбер, У. Слабодчыкаў, У. Папсуеў, Б. Маркаў, Ю. Палякоў, А. Чыгрын, І. Кляніцкі.**

**На першым этапе скульптары працуюць з каменем розных парод на палігоне скульптурнага цэха Мінскага мастацка-вытворчага камбіната. Тут робіцца грубая апрацоўка. Потым начатыя скульптуры будуць перавезены на тэрыторыю алімпійскай базы «Стайкі», дзе работа працягнецца да 5 кастрычніка.**

**Прадугледжана культурная праграма. У час яе скульптары наведаюць Гродна, дзе таксама праводзіцца пленэр, у якім акрамя беларускіх мастакоў, прымаюць удзел госці з шэрагу рэспублік краіны і з Польшчы.**

**Закончаныя творы Мінскага пленэра будуць выстаўлены ў скверы на рагу вуліц Энгельса і Кірава, а праз год «пераедуць» на тэрыторыю саду скульптуры, які плануецца стварыць на беразе Свіслачы паміж гасцініцай «Беларусь» і Траецкім прадмесцем. На наступны год Мінскі пленэр прымае замежных удзельнікаў.**

**В. БОГУШ.**



Удзельнікі Мінскага пленэру на скульптурным палігоне.

*Прэстыж роднай мовы*

## Генадзь БУРАЎКІН:

# «ВУЧЫМ ІНШЫХ, ВУЧЫМСЯ САМІ»

— Тэлебачанне і радыё — аб'ектыўнае люстэрка рэальнага жыцця, працэсаў, якія адбываюцца ў грамадстве, а значыць, і ўзроўню развіцця нацыянальнай мовы, — лічыць старшыня Дзяржтэлерадыё БССР Г. Бураўкін. — З экрана і па радыё сёння гучыць такая ж мова, якую мы з вамі чуем ад тых, хто акружае нас, штодзённа і штогадзінна: і добрую літаратурную, і тую, у аснове якой дыялекты, і так званую «мешанку».

**— Генадзь Мікалаевіч, давайце пачнём нашу гутарку з размовы аб беларускай мове, у першую чаргу, як аб рабочым інструменце рэспубліканскага радыё і тэлебачання, — прапанаваў карэспандэнт БЕЛТА Г. Бураўкіну.**

— Згодзен. Інакш мы да яе і не можам адносіцца. У нас існуе правіла — творчы супрацоўнік, які прыходзіць да нас на работу, павінен свабодна валодаць як рускай, так і беларускай мовай і прымяняць іх у залежнасці ад канкрэтнай сітуацыі. Я абсалютна перакананы ў правільнасці такога патрабавання. Бо калі чалавек уладкоўваецца працаваць, скажам, шафёрам, уменне вадзіць машыну для яго абавязковая ўмова. Дык чаму ў нас павінен быць іншы прафесіянальны падыход да журналістаў, рэжысёраў і г. д., калі яны не валодаюць сваім рабочым «інструментам»? Тэарэтычна гэтых жа прынцыпаў прытрымліваюцца і мае калегі — кожны добра разумее, што гэта адпавядае ленінскім ідэям нацыянальнай палітыкі. На практыцы ж прытрымлівацца абвешчаных лозунгаў больш складана.

**— Ці нельга гэту думку канкрэтызаваць?**

— Сённяшнія цяжкасці сфарміраваны і «паднесены» нам школай і ВНУ. Факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і тэатральна-мастацкі інстытут, напрыклад, рыхтуюць для нас спецыялістаў, якія вельмі слаба валодаюць беларускай мовай. Такая, на жаль, рэальнасць. Пры запаўненні анкеты чалавек піша, што валодае мовай, а бярэ ў рукі мікрафон або выходзіць да камеры і... І мы вымушаны выпраўляць чужыя недапрацоўкі — арганізавалі курсы па вывучэнню роднай мовы.

**— І вы лічыце, што такой «самадзейнасцю» можна ліквідаваць моўную неадукаванасць?**

— Так. Умова адна — жаданне. Гэта пацвярджае практыка. У нас ёсць работнікі, якія скончылі рускія або ўкраінскія ВНУ і праз год-паўтара пасля прыходу да нас вядуць размову з гледачамі і слухачамі на беларускай мове.

**— І ўсё ж, мяркуючы па перадачах, можна выказаць думку, што кваліфікаваных «двухмоўных» супрацоўнікаў у вас не хапае...**

— Я не сказаў бы так катэгарычна. Становішча прыметна мяняецца ў лепшы бок. Сёння на радыё працэнтаў каля 80 перадач ідзе ў эфір па-беларуску, на тэлебачанні—каля 40. А, скажам, дзесяць гадоў назад лічбы былі ледзь ці не ўдвая меншымі. Мы штогод праводзім конкурсы дыктараў, у іх удзельнічаюць сотні прэтэндэнтаў. Дык вось, калі некалькі гадоў назад сярод іх былі адзінкі, якія ведалі беларускую мову, то ў гэтым годзе калі не кожны другі, то кожны трэці ўжо нядрэнна валодаў мовай.

Гэты факт, па-мойму, дастаткова дакладна адлюстроўвае сённяшняе абуджэнне цікавасці да роднай мовы ў шырокіх мас. Тут, бясспрэчна, дае вынікі тая вялікая работа, якая пачата і партыйнымі органамі, і сродкамі масавай інфармацыі, вядома, дзеячамі літаратуры і мастацтва. Я аптыміст і лічу, што калі гэты працэс, які пачаўся з перабудовай, будзе і далей гэтак жа развівацца, гадоў праз пяць сённяшніх вельмі складаных праблем з беларускай мовай у нас ужо не будзе.

Павінен сказаць, што вельмі многае залежыць ад асабістага прыкладу тых, з кім людзі лічацца, каго паважаюць. Тут павінен дзейнічаць прынцып «рабі як я!». Калі кіруючыя работнікі рэспублікі загавораць па-беларуску, з іх абавязкова возьмуць прыклад кіраўнікі сярэдняга звяна, а за імі і самыя шырокія масы.

**— Але пакуль моўныя праблемы ў радыё і тэлебачання ёсць, глядач нярэдка адрасуе вам папрокі. Гавораць, напрыклад, што футбольныя матчы каменціруюць на беларускай мове, а вось перадачы адной з самых папулярных маладзёжных праграм «Тэлевізійны маладзёжны цэнтр» чамусьці ідуць на рускай.**

— Тут мне цяжка пярэчыць. Можна паспрабаваць апраўдацца тым, што гэтая сітуацыя — люстэрка, у якім адбіліся горшыя рысы фармальна зразуметага двухмоўя. Мы добра бачым свае недахопы, спрабуем выпраўляць іх. Маладзёжная рэдакцыя, напрыклад, на адной з бліжэйшых калегій якраз і будзе рабіць справаздачу па тых пытаннях, аб якіх мы з вамі гаворым.

Вы ўспомнілі футбольныя рэпартажы. Калі мы пачыналі іх весці на беларускай мове, былі чуваць і даволі грозныя галасы, якія папракалі нас ні многа ні мала, а ў... нацыяналізме. І павінен сказаць, што ў нас, на жаль, нярэдка блытаюць, а то і падмяняюць такія элементарныя паняцці як «нацыянальнае» і «нацыяналістычнае», спяшаюцца навешваць ярлыкі. З тымі ж рэпартажамі ў нас было многа непрыемнасцей. Зласлўцы лавілі кожнае няправільна вымаўленае слова, кожны няправільны націск каментатараў, забываючы, што мы ішлі новым шляхам, што спартыўная тэрміналогія ў нас слаба распрацавана. Але вось мінуў час, і наўрад ці знойдуцца сёння незадаволеныя рэпартажамі Уладзіміра Навіцкага (ён, дарэчы, некалькі гадоў назад не ведаў беларускай мовы). Нядрэнна каменціруюць па-беларуску спартыўныя спаборніцтвы Сяргей Новікаў і Віталь Саламахін.

Так што, як я ўжо казаў, усё залежыць ад жадання людзей, ад іх агульнай культуры.

**— А цяпер, калі ласка, — аб той рабоце, якую радыё і тэлебачанне вядуць па прапагандзе роднай мовы.**

— Згодзен, на тэлебачанні і радыё ляжыць асаблівая адказнасць. Само гучанне ў эфіры беларускай мовы міжволі для слухача фарміруе яго культуру, моўнае асяроддзе. І адно ўжо гэта працуе на расшырэнне сферы ўжывання роднай мовы.

Асаблівае значэнне мы надаём перадачам, якія непасрэдна датычаць развіцця беларускай мовы. Гэта тэлечасопіс «Роднае слова» і радыёчасопіс «Жывое слова». Калі радыёпраграма, якую вядзе пісьменнік Уладзімір Юрэвіч, разлічана на дзяцей і падлеткаў, то тэлевыпускі рыхтуюцца для самай шырокай аўдыторыі.

Прама або ўскосна прапагандзе роднай мовы прысвечаны перадачы літаратурна-драматычных рэдакцый як радыё, так і тэлебачання. Назаву хаця б «Ліру». У ёй выступалі такія нашы любімыя літаратары, як В. Быкаў, Я. Брыль, Р. Барадулін, М. Лужанін, Н. Гілевіч — ды ўсіх не пералічыш. І ў кожным выпуску размова ішла і аб выкладанні мовы і літаратуры ў школе, і аб культуры мовы, і аб некаторых больш канкрэтных рэчах.

Нядрэнна, на мой погляд, вядзе гэтую тэматыку радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная», больш сціплыя поспехі ў маладзёжнай рэдакцыі тэлебачання. А вось зусім маленькія тэлегледачы не павінны крыўдаваць. Дзіцячая рэдакцыя выпускае ў эфір «Літарынку» — гэта тэлеазбука, якая дае магчымасць малышу ў прамым сэнсе гуляючы вывучаць родную мову. Кожны вечар на нашых экранах «Калыханка». У ёй праз казку, праз лялечны спектакль прывучаем юных гледачоў да беларускай мовы. Яе, дарэчы, таксама спачатку многія ўспрынялі ў штыкі. Сёння ж, мяркуючы па сацыялагічных даследаваннях, у рэспубліцы ў яе гледачоў нікольні не менш, чым у маскоўскай «Добрай ночы, малышы!». Праўда, нас трывожыць, што паказаць дзецям беларускія мультфільмы мы не можам — іх практычна няма.

Можна было б сказаць і аб нашых тэлеспектаклях. Але тут прыходзіцца сутыкацца з тымі ж праблемамі, аб якіх мы з вамі ўжо гаварылі. На жаль, беларуская мова многіх акцёраў сёння далёка недасканалая. Нават у Акадэмічным купалаўскім тэатры некаторыя народныя валодаюць ёй адносна, а рэжысура і таго горш.

Увогуле ў сваёй рабоце мы спрабуем максімальна павышаць культуру беларускай мовы, выяўляць існуючыя сёння праблемы і дапамагаць іх правільна вырашаць, зыходзячы з прынцыпаў ленінскай нацыянальнай палітыкі.

**— Ці лічыце вы, што гэтага дастаткова для па-сапраўднаму дзейснай прапаганды нацыянальнай мовы?**

— Ні ў якім разе. Рабіцца павінна больш і, галоўнае, значна лепш. Сёе-тое ў самы бліжэйшы час мы маем намер ажыццявіць. Напрыклад, пачынаем новы цыкл, які будзе называцца «Гаворым па-беларуску». Гэта будзе своеасаблівы моўны «лікбез», практычныя заняткі для людзей усіх узростаў, якія жадаюць авалодаць гутарковай мовай. Пастараемся зрабіць перадачу цікавай, захапляльнай. Цяпер фарміруецца рэдакцыйны савет з вядучых моваведаў, пісьменнікаў, настаўнікаў.

Нацыянальная мова немагчыма без нацыянальнай гісторыі. Таму мы маем намер хоць бы часткова, запоўніць школьныя і вузаўскія прабелы і ў самы бліжэйшы час пачнём і гістарычны «лікбез». Гэта будзе даўгачасны, разлічаны не на адзін год цыкл, які ахопіць перыяд ад упамінання Белай Русі ў летапісах да нашых дзён. Пастараемся нічога не абысці маўчаннем, не забыць усіх, каго варта ўспомніць, сказаць аб усім добрым і дрэнным, што на нашай зямлі было.

У планах нямала і іншых перадач, але, напэўна, няма сэнсу раздаваць авансы — гледачы і слухачы ўбачаць іх на экранах і пачуюць у эфіры. І па тым, ці загавораць людзі па-беларуску, можна будзе меркаваць і аб дзейнасці рэспубліканскага радыё і тэлебачання.

— Адно я ведаю цвёрда, — падкрэсліў у заключэнне Г. Бураўкін. — Калі ў рэспубліцы існуе праблема нацыянальнай мовы і мы з вамі вымушаны весці гэту размову, значыць, радыё і тэлебачанне працуюць недастаткова. І не хачу суцяшаць сябе тым, што іншыя ідэалагічныя арганізацыі працуюць яшчэ менш, а сёй-той зусім нічога не робіць. Бачу нашу задачу ў тым, каб вучыцца самім і вучыць іншых. Інакш нельга.

 

# ЁСЦЬ ТАКІ ІНСТЫТУТ...

**Наш карэспандэнт гутарыць з рэктарам Мінскага інстытута культуры, кандыдатам філасофскіх навук М. М. ЗАРАНКОМ**



**ДАВЕДКА: Мінскі інстытут культуры створаны ў 1975 годзе. Цяпер на яго шасці факультэтах навучаецца 4 385 чалавек. З іх 1 617 на дзённым навучанні і 2 708 — на завочным. Інстытут рыхтуе спецыялістаў па наступных напрамках: кіраўнікоў самадзейных калектываў — харавых, аркестравых, тэатральных, харэаграфічных; арганізатараў-метадыстаў клубнай работы, рэжысёраў масавых святаў і спецыялістаў бібліятэчнай справы.**

**Кандыдат філасофскіх навук М. М. Заранок з'яўляецца чацвёртым па ліку рэктарам інстытута. Пасля заканчэння універсітэта быў вясковым настаўнікам, дырэктарам школы, выкладаў у Мазырскім педагагічным інстытуце. Апошнія два гады працаваў прарэктарам па навуцы тут жа, у Мінскім інстытуце культуры.**

**— Мікалай Мікалаевіч, змены, якія адбываюцца сёння ва ўсёй сістэме народнай адукацыі — стварэнне саюзнага камітэта па народнай адукацыі, рэспубліканскага міністэрства адпаведнага профілю, набліжэнне самой сістэмы навучання да першачарговых задач дня, — знаходзяцца ў цэнтры ўвагі ўсіх савецкіх людзей. І ўсё ж найперш яны хвалююць тых, хто прысвяціў сваю працу навучанню і выхаванню — у самым шырокім сэнсе гэтага слова — падрастаючага пакалення.**

— Адной са сфер, дзе партыя пачала расчышчаць завалы старога, аджыўшага, стала вышэйшая школа. У гэтым, на наш погляд, найбольш ярка праявілася навуковая абгрунтаванасць, сталасць канцэпцыі перабудовы. Без кадраў, новага, якаснага ўзроўню падрыхтоўкі, прынцыпова новага мыслення рэвалюцыйныя лозунгі не дадуць практычных вынікаў.

Вышэйшая школа на сённяшні дзень адстала ад запатрабаванняў грамадства і адстала вельмі сур'ёзна. Яе праблемы касметычным рамонтам вырашаць немагчыма. Патрэбна карэнная рэканструкцыя ўсёй сістэмы падрыхтоўкі кадраў. Як вядома, асноўныя накірункі перабудовы вышэйшай адукацыі адлюстраваны ў пастановах ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР, якія апублікаваны летась, канкрэтызаваны ў матэрыялах лютаўскага Пленума ЦК КПСС.

Цяжка і няпроста адбывалася іх абмеркаванне ў нашым калектыве. Перш за ўсё цяжка псіхалагічна, бо даводзілася ламаць стэрэатыпы, якія складваліся дзесяцігоддзямі. Абмеркаванне праходзіла на ўсіх кафедрах, у студэнцкіх групах. Нараджаліся дзесяткі прапаноў. Для мяне, як маладога кіраўніка, гэта быў першы, па-сапраўднаму сур'ёзны, урок дэмакратыі. Менавіта тады нарадзіўся галоўны кіруючы прынцып, якога прытрымліваюся цяпер: перш, чым прымаць рашэнне, парайся з тымі, хто гэтае рашэнне будзе выконваць. Вынікі абмеркавання партыйных дакументаў мы сканцэнтравалі ў перспектыўным плане развіцця інстытута да 1995 года.

**— Як пра гэта неаднаразова гаварылася ў друку, па радыё, тэлебачанні, на розных прадстаўнічых форумах, без культуры немагчымы духоўны рост грамадства, ідэалагічнае забеспячэнне перабудовы. І, зразумела, у сувязі з гэтым узрастае роля работнікаў вышэйшай школы, у тым ліку і выкладчыкаў інстытута культуры, дзе рыхтуюць людзей, якія з цягам часу павінны дапамагчы іншым станавіцца больш культурнымі, інтэлігентнымі. Вядома, паняцце інтэлігентнасці далёка не заўсёды адпавядае адукацыйнаму цэнзу чалавека... І ўсё ж, што, на вашу думку, уключае ў сябе паняцце «інтэлігентны», «культурны»? Чым можа дапамагчы тут інстытут культуры?**

— Уклад культуры ў перабудову, яе роля ў гэтым працэсе — пытанне архіактуальнае і архіскладанае. Сёння ўсе мы прызнаём: формы і метады выкарыстання свабоднага часу, якімі мы карысталіся і карыстаемся цяпер, безнадзейна ўстарэлі. Жыхар горада і вёскі іх адмаўляе. Патрэбен новы падыход, новая канцэпцыя арганізацыі свабоднага часу. Думаю, што ў яе аснову трэба пакласці багаты пласт беларускіх нацыянальных традыцый, звычаяў, абрадаў. Пры гэтым, канечне, варта памятаць, што наша культура — не адзінокі востраў. Мы сотнямі, тысячамі ніцяў звязаны з культурамі іншых народаў... Павага да дасягненняў іх, уменне адабраць найбольш неабходнае для сябе, не выключае і крытычнага стаўлення...

Стрыжнем у канцэпцыі свабоднага часу павінен стаць прынцып непасрэдных чалавечых кантактаў, тое, што мы растрацілі ў гады застою, калі ўзаемаадносіны людзей набывалі выродлівыя формы, звязаныя з алкагалізмам, наркаманіяй, прастытуцыяй. Мы часта паўтаралі словы Карла Маркса аб тым, што свабодны час — гэта прастора для развіцця асобы, што гэта грамадскае багацце, а на самай справе бяздумна транжырылі гэтае багацце.

Сёння мы бачым ролю свайго інстытута ў тым, каб увесь патэнцыял, які ёсць у нас у наяўнасці, накіраваць на ўсебаковую, тэарэтычную і метадычную распрацоўку данай канцэпцыі і, разам з тым, ужо на цяперашнім этапе ўносіць свой уклад у выхаванне людзей, дапамагаць ім у арганізацыі паўнацэннага, змястоўнага адпачынку, удзельнічаць у фарміраванні інтэлігентнасці.

Так, на жаль, прычым на вялікі жаль, сапраўдная інтэлігентнасць і вышэйшая адукацыя яшчэ не сталі ў нас сінонімамі. І тут клопат не толькі ВНУ — шырокая сацыяльная праблема, звязаная з сур'ёзнымі пралікамі ў выхаванні сямейным, дашкольным, школьным, пазашкольным і г. д. Але, вядома, інстытут культуры павінен уносіць уклад у працэс фарміравання інтэлігентнасці сваімі сродкамі, спецыфіка якіх складаецца ў тым, што галоўная работа нашых спецыялістаў пачынаецца якраз тады і там, дзе і калі ў іншых людзей заканчваецца іх рабочы дзень. Перад намі досыць парадаксальная сітуацыя: праца цяпер усё больш інтэлектызуецца, патрабуе ўсё большых ведаў ад арганізацыя, і ў той жа час сам працоўны працэс часам спрашчаецца настолькі, што не патрабуе непасрэднага праяўлення творчых здольнасцей чалавека. І тут сфера адпачынку павінна ліквідаваць гэтыя «нажніцы»: у мастацкай і ў тэхнічнай творчасці, у бібліятэках, у розных аб'яднаннях і клубах па інтарэсах, аматарскіх калектывах.

Мы не рыхтуем спецыяльна кадры для работы ў парках адпачынку, як дзіцячых, так і дарослых, але ж і там таксама не павінна быць выпадковых людзей. Чаму б нам не стварыць свой «Дзісней лэнд», музей рэспублікі пад адкрытым небам, падобны да тых, якія ёсць у ЗША, Японіі, Швейцарыі. Гэта ж такія магчымасці для адпачынку і выхавання сапраўдных патрыётаў! Адкрываючы ў новым навучальным годзе спецыялізацыю «рэжысура дзіцячых святаў», мы спадзяёмся часткова вырашыць гэтыя праблемы...

Ці возьмем, напрыклад, рытуальныя святы, у прыватнасці, вяселлі. Да нядаўняга часу, скажам шчыра, гэта былі проста калектыўныя п'янкі. Перад нашымі творчымі кафедрамі пастаўлена задача адраджэння беларускага народнага вяселля з усімі характэрнымі яму элементамі гульні (невыпадкова ж раней «гулялі вяселле»?), песнямі, танцамі, жартамі... З гэтай мэтай адно такое вяселле — нашых студэнтаў — было паспяхова ажыццёўлена на сцэне Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў імя Ільіча, у прысутнасці калектыву інстытута і шматлікіх гасцей. Тут шмат папрацавалі наш самабытны калектыў «Валачобнікі» і кафедра рэжысуры масавых святаў. Заявак на правядзенне падобнага вяселля потым паступіла шмат. Гэта значыць, што не можа чалавек не адгукнуцца на сапраўдную прыгажосць і паэзію.

**— Але, будзем шчырымі, задачы, якімі б высакароднымі яны ні былі, могуць застацца пэўнай дэкларацыяй, што павісае ў паветры. Неабходна яшчэ і адпаведнае рэальнае забеспячэнне. Патрэбны высокакваліфікаваныя выкладчыкі. І не толькі выдатныя спецыялісты ў сваёй галіне ведаў, але і сапраўдныя педагогі. Ці задавальняе вас становішча з выкладчыцкімі кадрамі?**

— Калі ачысціць вышэйшую школу ад усіх напластаванняў, дык у ёй застанецца галоўнае — настаўнік і вучань: хто вучыць і каго вучаць. Толькі асоба здольна сфарміраваць высокапрафесійнага спецыяліста. Кадравы склад выкладчыкаў інстытута фарміраваўся са скрыпам. Спецыялістаў па многіх галінах у рэспубліцы наогул не было. Не заўсёды запрашэнню таго ці іншага педагога папярэднічала глыбокае і ўсебаковае вывучэнне яго прафесійных вартасцей, маральных якасцей. Сёння гэта, як кажуць, у мінулым. Апошнія два гады ў інстытуце дзейнічае зладжаная сістэма работы з кадрамі. Перш чым узяць чалавека, мы дэталёва вывучаем яго, праводзім адкрытыя заняткі, абмяркоўваем яго навуковыя працы, яго ўменне жыць і працаваць у калектыве, ствараць вакол сябе атмасферу добразычлівасці, творчай, актыўнай работы.

Сёння наш педагагічны корпус налічвае каля 380 педагогаў. Многія выхаваны ў сценах нашага інстытута. Па ліку педагогаў з навуковымі ступенямі, званнямі наш інстытут займае месца пасля маскоўскага і ленінградскага, хоць тыя існуюць больш за 50 гадоў.

**— Як вядома, вы ў інстытуце далёка не першы рэктар? І, відаць, прыходзіцца нялёгка?**

— Вы гэта дыпламатычна заўважылі. Мяне калі-нікалі здзіўляе, як гэта мы, у нашых умовах, не маючы неабходнай базы, яшчэ выпускаем спецыялістаў. Думаю, што наш інстытут — адзін з яркіх прыкладаў рэшткавага прынцыпу адносін да культуры. Інстытут, які павінен рыхтаваць спецыялістаў у галіне культасветработы і бібліятэчнай справы, быў размешчаны ў зусім не прыстасаваным для гэтага памяшканні. Балюча пра гэта гаварыць, але даводзіцца — інстытут не мае актавай і спартыўнай залаў, спецыяльна абсталяваных аўдыторый для заняткаў рэжысёрскіх груп, хораў, аркестраў, танцавальных калектываў.

**— Прыгадайце, калі ласка, свой першы дзень на рэктарскай пасадзе. З чаго пачыналі сваю дзейнасць?**

— Да таго дня, калі афіцыйна стаў рэктарам, я 12 месяцаў выконваў гэтыя абавязкі. Так ужо атрымалася, што на гэтую пасаду мяне не назначалі, а выбіралі. Гэта былі адны з першых выбараў рэктара ў рэспубліцы. Вопыту выбараў не было. І хоць я ўжо выконваў абавязкі рэктара і дастаткова добра ведаў людзей і праблемы інстытута, палічыў, што выбары толькі тады будуць дэмакратычнымі, калі педагогі і студэнты будуць ведаць маю праграму. Яе распрацоўка заняла шмат часу. Рыхтаваў яе не ў цішыні кабінета, а ў пастаянным кантакце з калегамі. Папрасіў партком арганізаваць яе абмеркаванне ва ўсіх студэнцкіх групах, кафедрах, падраздзяленнях. Канчаткова яна была разгледжана на пашыраным пасяджэнні вучонага савета. Абмеркаванне атрымалася крытычным, прынцыповым. Фактычна я атрымаў ад калектыву наказ на бліжэйшыя пяць гадоў. Сёння ўсе добра ведаюць, што за гэты час я павінен зрабіць. І кантроль за выкананнем гэтага наказу самы эфектыўны — кантроль знізу. Таму ў першы дзень на новай пасадзе я пастараўся выдзеліць найбольш важныя палажэнні гэтага наказу, выкананне якога дазволіць апраўдаць надзеі людзей. Гэта — стварэнне адпаведнай матэрыяльнай базы, перспектывы развіцця інстытута (адкрыццё новых спецыяльнасцей і спецыялізацый, карэнная перабудова вучэбна-выхаваўчага працэсу і навуковай дзейнасці), падбор і расстаноўка кадраў, паляпшэнне маральнага клімату ў калектыве.

**— Ці шмат удалося ўжо зрабіць?**

— Пабудавана сталовая на 450 месцаў. Зрушылася з мёртвай кропкі пытанне аб будаўніцтве другога навучальнага корпуса, пачата работа па ўводзе ў 1990 годзе фізкультурна-аздараўленчага комплексу. У навучальным працэсе пачалі ўкараняцца эфектыўныя тэхнічныя сродкі.

**— Цяпер шмат гаворыцца і пішацца пра самакіраванне ў інстытутах, універсітэцкіх калектывах. Наколькі гэтыя новыя ідэі знайшлі сваё ажыццяўленне ў інстытуце культуры?**

— Самакіраванне ў вышэйшай школе мае даўнія гістарычныя традыцыі. Праўда, у гады панавання адміністрацыйна-каманднай сістэмы адбылася істотная дэфармацыя яго асноўных прынцыпаў. Сёння прадстаіць вялікая работа, у тым ліку і ў нашым інстытуце, каб вярнуць самакіраванню яго сапраўдны сэнс. Тут мы вядзём работу ў некалькіх кірунках: галоўнае — выхаваць у людзях пачуццё гаспадара, пачуццё адказнасці за даручаную справу. Узнімаем ролю кафедры і студэнцкай групы. Перадалі ім многія функцыі рэктарата і дэканата. Без іх думкі не рашаем практычна ні аднаго пытання.

**— Хоць у назве інстытута не падкрэслена, што ён «Беларускі інстытут культуры», але ж гэта адзіная адпаведнага профілю вышэйшая навучальная ўстанова ў рэспубліцы. Яна заклікала галоўную ўвагу ўдзяляць падрыхтоўцы кадраў перш за ўсё для сваёй рэспублікі. У сувязі з гэтым паўстае пытанне аб мове, на якой ідзе навучальны працэс.**

— Сапраўды, МІК — адзіная вышэйшая навучальная ўстанова такога тыпу. Рэспубліка адчувае вельмі вострую патрэбу ў нашых выпускніках. Таму пераважная большасць іх працуюць у БССР. Выкладанне ж вядзецца ў асноўным на рускай мове. Так склалася ў рэспубліцы сітуацыя і мы пакуль што не ў стане адысці ад гэтага. Перспектыву бачым у практычным двухмоўі. Нашы выпускнікі павінны добра ведаць, любіць і актыўна выкарыстоўваць і беларускую, і рускую мову. Ужо сёння выкладаецца шэраг дысцыплін на беларускай мове. Плануем значна пашырыць колькасць такіх прадметаў. Нас радуе цікавасць студэнтаў да гісторыі і культуры свайго народа. Уведзена выкладанне этнаграфіі і фальклору. Несумненна, што гэты прадмет неабходна чытаць усім студэнтам інстытута, таксама як і знаёміць іх з асноўнымі каштоўнасцямі беларускай мастацкай культуры.

У сваім пытанні вы згадалі, што ў назве інстытута не падкрэслена «беларускі». Хацелася б гэта падкрэсліць! Думаю, што наша рэспубліка заслужыла мець Беларускі дзяржаўны інстытут культуры. І не толькі па назве, але і па сутнасці. Марым аб прысваенні інстытуту імя вялікага беларускага асветніка Скарыны.

**— Што новага сёлета было ў правілах пры прыёме ў ВНУ? І, галоўнае, як ставяцца тут да практыкаў, да тых, хто ўжо не адзін год працуе па спецыяльнасці, а вышэйшай адукацыі не мае? Не сакрэт жа — і гэта наша агульная бяда, што добрыя спецыялісты часам маюць не надта высокую падрыхтоўку. Ім цяжка сапернічаць на экзаменах з нядаўнімі выпускнікамі, нядрэнна падрыхтаванымі тэарэтычна, але, на жаль, часам вельмі абыякавымі да сваёй будучай прафесіі.**

— Сёлета ў правілах прыёму адбыліся такія змены: былі адменены амаль усе льготы, якія існавалі для паступаючых раней. Асноўнымі крытэрыямі сталі веды і здольнасці. Раней мы прымалі ад 30 да 70 працэнтаў па пазаконкурснаму і мэтаваму наборы. Шчыра кажучы, для ВНУ гэтая катэгорыя студэнтаў, асабліва тых, хто паступаў на стацыянар, у большасці сваёй з'яўлялася «баластам». Яны мелі слабую спецыяльную падрыхтоўку, а то і наогул ніякай. І вось з такога кантынгенту мы павінны былі падрыхтаваць за чатыры гады спецыяліста, здольнага самастойна кіраваць самадзейным калектывам ці клубнай установай. У выніку зніжаліся агульны ўзровень, якасць падрыхтоўкі спецыялістаў.

Цяпер жа гэтай катэгорыі паступаючых былі прад'яўлены такія ж патрабаванні, як і астатнім абітурыентам. У выніку з плана прыёму па мэтаваму набору 90 чалавек былі залічаны толькі 24, але тыя, хто можа стаць у перспектыве добрым спецыялістам. Па-другое, правіламі прыёму было дазволена прымаць дакументы ад асоб, якія закончылі сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, як сёлета, так і ў мінулыя гады. Раней гэтыя абітурыенты павінны былі адпрацаваць два гады. Але ж пасля такой адпрацоўкі мала хто падаваў дакументы на стацыянар— у асноўным выбіралі завочную форму навучання.

Дарэчы, на завочным факультэце ў нас з 2708 чалавек амаль усе маюць сярэднюю спецыяльную адукацыю і працуюць па той спецыяльнасці, па якой у ВНУ ўдасканальваюць сваю падрыхтоўку. Калі летась на дзённую форму навучання са спецыяльнай адукацыяй прынялі 18 чалавек, то сёлета — 130, а таксама 82 чалавекі з тых, хто мае стаж па выбранай спецыяльнасці.

**— Учарашнія абітурыенты сталі студэнтамі... Новы навучальны год бярэ старт. Якім ён вам бачыцца?**

— Хацелася б, каб ён быў паспяховым. І яшчэ хацелася б, каб студэнты былі прагнымі да ведаў, каб вучыліся з гэткім стараннем, з якім большасць з іх здавала ўступныя экзамены і якога патрабуе наш час — час пошукаў і абнаўлення.



 

«Круглы стол» «ЛіМа»

# ПРАЎДА З ПЕРШЫХ РУК

**У «круглым стале» «ЛіМа», прысвечаным некаторым аспектам развіцця архіўнай справы, удзельнічаюць намеснік начальніка Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР Аляксандр МІХАЛЬЧАНКА, дырэктар Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР Ганна СУРМАЧ, дырэктар Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР Вячаслаў СЕЛЯМЕНЕЎ, пісьменнікі Барыс САЧАНКА і Эрнест ЯЛУГІН, доктар гістарычных навук Генадзь КІСЯЛЁЎ, кандыдаты гістарычных навук Віталь СКАЛАБАН і Генадзь КАХАНОЎСКІ, загадчыца аддзела, член рэдкалегіі «ЛіМа» Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

**Каржанеўская.** Даследаваць мінулае—далёкае і адносна блізкае,—значыць зірнуць у корань тых ці іншых з'яў і падзей, усвядоміць дыялектычную сувязь дня ўчарашняга з днём сённяшнім. Зварот шырокай грамадскасці да гістарычнай праўды—гэта абавязкова і вяртанне да першакрыніц, да гістарычнага дакумента, які з'яўляецца носьбітам праўды. Прызнаюся, з хваляваннем я заходзіла ў сховішча Цэнтральнага архіва-музея літаратуры і мастацтва...

**Скалабан.** Як гаворыцца, архіўным пылам захацелі падыхаць...

**Сурмач.** Хацела б я ведаць, адкуль бяруцца гэтыя распаўсюджаныя, асабліва ў журналісцкім асяроддзі, штампы: здаць, спісаць у архіў, архіўны пыл, архіўныя залежы... Архіў жа не склад макулатуры. Ва ўсе часы і ва ўсіх народаў у архівы здавалася найбольш значнае, каштоўнае. І пэўна ж для таго, каб не выкрэсліваць з жыцця, а, наадварот, заставацца ў ім вечна. І архіўнага пылу ў архівах не больш, чым у добрай гаспадыні ў кватэры.

**Скалабан.** У вас, як вядома, чакаюцца перамены — архівы пераходзяць у склад Міністэрства юстыцыі. Але чамусьці на адпаведную пастанову не было ў рэспубліцы ніякай рэакцыі.

**Міхальчанка.** Калі ўзнімае шум зацікаўлены бок, то адносіны адпаведныя: гэта ж бюракрат, якога скарачаюць. Іншая справа, калі б гаворку павяла грамадскасць. Аднак у Вярхоўным Савеце БССР, калі ішло абмеркаванне пастановы, ні пісьменнікі, ні дзеячы мастацтва не сказалі свайго слова. І хоць у выніку мы страцілі юрыдычную самастойнасць, а працаваць трэба—і працаваць лепш.

**Скалабан.** Скарачаюцца і штаты архіваў?

**Сурмач.** Архівы няма ўжо куды скарачаць.

**Міхальчанка.** Скарачэнню падлягае, прычым удвая, толькі штат упраўлення.

**Селяменеў.** Існавала адзіная сістэма дзяржаўных архіўных органаў: архіўныя ўпраўленні працавалі пад эгідай Саветаў Міністраў. Зараз атрымалася так: РСФСР, Украіна і некаторыя іншыя рэспублікі захавалі свае самастойныя архіўныя ўпраўленні, а ў Беларусі і іншых адбылася рэарганізацыя. Замест стройнай сістэмы мы маем вось такі разнабой.

**Сурмач.** Рэарганізацыя паставіла нас у новыя ўмовы. Пакуль што мы не бачым рэальнай магчымасці ліквідаваць тыя недахопы ў рабоце архіваў, пра якія пісаў цэнтральны друк.

**Кісялёў.** Атрымліваецца, што гэта крок назад?

**Селяменеў.** І крок невыпадковы. Ён вынікае з непаважлівых адносін да архіваў. Прывяду такі прыклад па рэспубліцы: самыя недысцыплінаваныя ў пытаннях упарадкавання сваёй дакументацыі—Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР і Савет Міністраў. Адзін з 60-га года, а другі з 61-га не здалі нам дакументаў. А што значыць—затрымацца на 25 год з гэтай справай? Гэта значыць, пакінуць прабелы ў нашай сённяшняй гісторыі.

**Міхальчанка.** Можа так здарыцца, што сама перабудова стане для нашчадкаў «белай плямай».

**Селяменеў.** У названых установах ёсць загадчыкі архіваў. Яны, наколькі я ведаю, атрымліваюць добрую зарплату, потым персанальныя пенсіі, а работы, аднак, не вядуць. Прэзідыум Вярхоўнага Савета толькі нядаўна прывёў у парадак і здаў у ЦДАКР БССР паперы 1959 года. І што ж мы маем? Цэлы шэраг цікавых дакументаў не дайшоў да нас. Сярод іх—матэрыялы пастаянных камісій Вярхоўнага Савета і іншыя. Ёсць арганізацыі, у якіх архіўная справа пастаўлена добра, але іх, на жаль, мала. Калі прыходзіць чалавек узяць даведку аб працоўным стажы, а дакументы знішчаны—чым яму дапаможаш? На вайну не спішаш.

**Міхальчанка.** Як ні дзіўна, у нас лепш захаваліся дакументы мінулых стагоддзяў.

**Скалабан.** Дык што, можа сапраўды атрымаецца так, што падзеі XIX ст. мы будзем ведаць лепш, чым сённяшнія?

**Селяменеў.** Гэта ўжо праяўляецца. Пры падрыхтоўцы зборнікаў сучасных дакументаў—напрыклад, па народнай асвеце—мы нічога цікавага не можам прадставіць. Адны пастановы і справаздачы. Няма духу эпохі, каларыту яе.

**Кісялёў.** Павінен дадаць: па законных падставах з дакументаў савецкіх устаноў знішчаецца ўся перапіска. Ёсць нейкі невялікі тэрмін захоўвання, а потым яна трапляе ў макулатуру. А ў лістах жа самае цікавае, самае каштоўнае!

**Каржанеўская.** А хто прыняў такое рашэнне наконт перапіскі?

**Селяменеў.** Існуе адпаведная інструкцыя. У кожнага віда дакументаў—свой тэрмін захоўвання.

**Кісялёў.** Архівісты стаяць перад неабходнасцю адбіраць матэрыялы. Толькі 5—10 працэнтаў іх трапляе ў сховішчы. Усё захоўваць і немагчыма, і няма патрэбы.

**Сурмач.** Мы карыстаемся такім прынцыпам: максімум інфармацыі, мінімум дакументацыі. У апошнія дзесяцігоддзі ўстановы пачалі зберагаць так званую «парадную» дакументацыю. А паколькі справаздачы пачыналі адлюстроўваць не жыццё, а тое, што некаму хацелася бачыць, то каштоўнасці яны амаль не маюць. Архівістам трэба сур'ёзна задумацца над тым, як мы праводзім камплектаванне, і браць тое, дзе б'ецца, пульсуе жыццё.

**Кісялёў.** І больш уплываць на канцылярскіх работнікаў, накіроўваць іх. Каб яны лепш усведамлялі, што пажадана захоўваць, а што—не.

**Каржанеўская.** Наша газета таксама час ад часу здае свой рэдакцыйны архіў. Пры гэтым лічылася, што ўвесь ён праз пэўны час спісваецца. І толькі ў архіве літаратуры і мастацтва я даведалася, што ўсе матэрыялы, усе рукапісы, якія мы здаём, апрацоўваюцца. З іх адбіраецца тое, што можа мець цікавасць для наступнікаў, і паступае на захоўванне.

**Скалабан.** Уявім сабе, што дакументы ўжо надзейна захоўваюцца ў архіве. А што далей? Часта даводзіцца чуць, што архівы закрыты.

**Селяменеў.** Адзін момант хацелася б удакладніць. Пара нам адмовіцца ад абстрактнага падыходу да архіваў і гаварыць канкрэтна. Якія архівы вы маеце на ўвазе—дзяржаўныя, партыйныя, ведамасныя? Па 30-х гадах, напрыклад, у дзяржаўных архівах дакументаў амаль няма. Даследчыкі, якія займаюцца гэтым перыядам, павінны атрымліваць доступ у архівы КДБ, МУС і партархівы.

**Скалабан.** Але ж і ў вас ёсць абмежаванні?

**Селяменеў.** Так. На сённяшні дзень існуе тры формы абмежаванняў: 1) сакрэтныя матэрыялы; 2) абмежаванага доступу—з дазволу ўстаноў; 3) асабістыя фонды—з дазволу ўладальніка.

**Міхальчанка.** На большасць спраў сапраўды існаваў абмежаваны допуск. За апошні час на 70 працэнтаў дакументаў мы абмежаванні знялі. Мы разаслалі пісьмы ў 65 ведамстваў, адказы атрымалі ад 19. Адны прыслалі палажэнні аб допуску да сваіх спраў, а другія заявілі, што без саюзных міністэрстваў вырашаць гэта пытанне не будуць. Такую вось пазіцыю занялі.

**Селяменеў.** Савет Міністраў, напрыклад, адкрыў свае фонды для даследчыкаў, а Міністэрства лясной гаспадаркі—не. Трэба разумець, вялікімі сакрэтамі валодаюць...

**Міхальчанка.** І паколькі ў краіне няма закона па архіўнай справе, сваёй уладай мы не можам рассакрэціць ведамасныя матэрыялы. Іменна пагэтаму ў Рэзалюцыі XIX партыйнай канферэнцыі аб галоснасці ёсць пункт пра тое, што неабходна распрацаваць адпаведны закон па архіўнай справе.

**Ялугін.** Наконт «закрытасці»: доктар гістарычных навук Р. Платонаў неяк пісаў у «Звяздзе», што для даследчыкаў закрыта 50 працэнтаў фактычнага матэрыялу. Як жа ў такіх умовах працаваць? Хіба нармальна будзе функцыянаваць мозг, у якім паралізавана адно паўшар'е?

**Каржанеўская.** Пра неапраўданую засакрэчанасць многіх звестак, пра штучныя перашкоды на шляху даследчыкаў слушна пісаў у «Звяздзе» выкладчык Мінскага інстытута культуры Л. Смілавіцкі. Сапраўды, чаму закрытымі з'яўляюцца нават для аспірантаў-камуністаў матэрыялы пленумаў ЦК КПБ, пасяджэнняў Бюро, з'ездаў?

**Міхальчанка.** Дадам: усё гэта тычыцца і камсамольскай дакументацыі. Што ж да артыкула, то, на жаль, многія моманты яго былі б актуальнымі некалькі год таму назад, але не сёння.

**Селяменеў.** За апошнія толькі паўгода мы рассакрэцілі 33 фонды. Сярод іх фонды наркамата ўнутраных спраў за 20-ыя гг., Заходняй Беларусі...

**Сурмач.** У нашым архіве свабодны доступ атрымала «Наша Ніва». Але даследчыкі, гаворачы пра закрытасць архіваў з высокіх трыбун, падчас не ведаюць да нас дарогі. Апошнім часам з'явілася значная колькасць навукоўцаў, якія працуюць толькі з друкаванымі матэрыяламі. Так, мусіць, прасцей і лягчэй зрабіць «уклад» у навуку.

**Каржанеўская.** Выходзіць, што нават адкрытае і даступнае не спяшаюцца вывучаць і даследаваць?

**Сурмач.** Мы, напрыклад, 28 год збіралі матэрыялы па гісторыі беларускага тэатральнага мастацтва—для тых, хто возьме на сябе цяжкую працу па яе даследаванні. І што ж? Выйшаў акадэмічны трохтомнік «Гісторыі беларускага тэатра», а яго аўтары ў нас нават не пабывалі. Дык для каго мы стараліся? У «ЛіМе» неяк друкаваўся ліст, у якім чытач выказваў здзіўленне: што ж гэта за навуковая праца, у якой няма спасылак на першакрыніцы?

**Скалабан.** Гэта не зусім так. Некалькі спасылак там усё-такі ёсць.

**Каханоўскі.** Я хацеў бы сказаць пра тое, што нямала дакументаў, у тым ліку і каштоўных, знаходзіцца ў асабістых архівах даследчыкаў, школьных, ведамасных і іншых музеях. Мне давялося пабыць у музеі СШ № 8 г. Слуцка, дзе сабраны цікавейшыя матэрыялы пра пісьменнікаў-землякоў. Разам з тым, паўстае пытанне, як захоўваюцца дакументы ў такіх вось невялікіх, невядомых грамадскасці музейчыках. У Доктаравічах, што на Капыльшчыне, ёсць музей паэта-франтавіка У. Ясючэні. Былі там лісты яго, рукапісы, але невядома, куды яны падзеліся.

**Сурмач.** А ці павінны ў такіх музеях наогул быць арыгіналы?

**Каханоўскі.** Арыгіналы псуюцца, выцвітаюць. Лепш было б на сцэны вывешваць копіі, а арыгіналы здаваць на захаванне ў архіў літаратуры і мастацтва.

**Сачанка.** У названы архіў, я лічу, павінна быць здадзена ўсё, што датычыць беларускіх пісьменнікаў, дзеячаў культуры і навукі, якія беспадстаўна арыштоўваліся ў 30-ых гадах і пазней. І СП БССР, і архіўнаму ўпраўленню, і іншым установам трэба зрабіць усё магчымае для гэтага.

Я сутыкнуўся і з такой з'явай. У 1937 годзе 22 пісьменнікі былі прысуджаны да «высшей меры наказания». Быў у мяне намер гэты спіс надрукаваць. Пачаў глядзець па даведніках — разыходжанні ў датах. Гадамі смерці лічацца і 36, і 39, і 41... Аказалася, што наконт даты смерці В. Маракова (пра яго пісала «Звязда»), трэба ўносіць папраўку ў энцыклапедыю.

**Ялугін.** Як усё-такі трапляюць такія памылкі ў БелСЭ?

**Скалабан.** Як правіла, мы звяртаемся за звесткамі ў Камітэт дзяржбяспекі.

**Сачанка.** У перадсмяротным пісьме Купалы няма дзяржаўных таямніц — толькі сведчанне таго, як чалавека мучылі, як змушалі нагаворваць на сябе. Большасць падобных дакументаў захавалася, але мы не маем да іх доступу. Рэабілітавалі, напрыклад, Ластоўскага — а пра лёс яго асабістага архіва нічога невядома. Ствараем фільм пра Жылуновіча, а перадсмяротнае пісьмо атрымаць не можам. Я яго прачытаў, але як бы незаконна. Паказваюць пісьмо: чытай, але рукі трымай за спіною.

**Ялугін.** Такое і ў мяне здаралася не раз. Чытаць дазваляюць, а перапісваць, фатаграфаваць нельга. Або: перапісваць можна, але некалькі абзацаў ці некалькі радкоў. І ты адчуваеш сябе маленькім-маленькім...

**Сачанка.** Пры вобысках у 30-ых гадах забрана многа твораў у П. Галавача, у М. Зарэцкага, у М. Лужаніна. Дзе яны? Спасылаюцца на тое, што частка архіва не была вывезена ў час вайны.

**Сурмач.** Частка знаходзіцца ў нас, у фондзе сумна вядомага крытыка Бэндэ.

**Сачанка.** Так, ён многа твораў прадаў перад смерцю.

**Сурмач.** Барыс Іванавіч, рыхтуючы вялікі артыкул пра Бэндэ, ці карысталіся вы дапамогай архіваў?

**Сачанка.** Я, прызнаюся, маю свой асабісты архіў. У ім ёсць, апрача ўсяго іншага, пісьмы Івашкевіча, Паустоўскага, іншыя цікавыя матэрыялы. Але я іх нікуды не аддам.

**Сурмач.** А ці добра гэта? Прыватныя калекцыі — наш агульны скарб.

**Сачанка.** Каб быць агульным скарбам, яны найперш павінны існаваць. Усю праўду аб 37-ым годзе без асабістых архіваў мы не ведалі б.

Яшчэ. Я калісьці працаваў у часопісе «Полымя». Памятаю, мы друкавалі раман У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». Колькі было на рукапісе заўваг — Танка, Пташнікава, маіх — і па 2—3 старонкі, убарыстым почыркам, адказы Караткевіча. Дзяўчаты з архіва забралі нашы матэрыялы, але баюся, што той рукапіс нідзе мы ўжо не пабачым, не сустрэнем. Расказвалі, што адзін пісьменнік здаваў у архіў аж тры мяшкі непатрэбшчыны. А прымаць трэба не абы-што, а самае каштоўнае, і не ад кожнага прымаць. Мне, напрыклад, нецікава ведаць, што напісаў Гурскі ці яшчэ хто ў гэтым родзе...

**Каржанеўская.** Чаму? Гэта таксама дакументы эпохі.

**Сачанка.** Думаю, што ёсць віна самых архіўных работнікаў у тым, што архівы ў нас мала ведаюць, а падчас нават ігнаруюць. Трэба шукаць усялякую магчымасць, каб прыцягнуць увагу грамадскасці, падняць аўтарытэт установы. Прывяду такі прыклад. У бібліятэцы Дома літаратара бываюць выстаўкі кніг да юбілеяў...

**Сурмач.** Там выстаўляюцца нашы ў асноўным матэрыялы.

**Сачанка.** ...Але ж спасылак на гэта няма. Не заўсёды мы ведаем, што захоўваецца ў архіўных фондах. Гаворка ідзе аб прапагандзе архіўнай справы, у прыватнасці — архіва літаратуры і мастацтва Беларусі. З будучага года ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пачне выходзіць зборнік «Шляхам гадоў». Спадзяюся, гэта дасць магчымасць больш прадстаўляць архіўныя багацці.

Паўтару: ёсць недаацэнка архіваў з боку пісьменнікаў і іншых дзеячаў, ёсць пэўны недавер, і яго трэба рассейваць. Як? Толькі агульнымі намаганнямі.

**Сурмач.** Мне здаецца, ужо са школы трэба выхоўваць павагу да гістарычных крыніц. Некаторыя ВНУ прысылаюць да нас студэнтаў на практыку, сёлета стажыраваліся нават два замежныя студэнты. Прапаноўвалі мы і на філфаку БДУ прысылаць да нас будучых настаўнікаў — хаця б на экскурсію, каб маглі пабачыць, як пісалі Купала, Колас, Мележ, якія выразныя малюнкі рабіў на сваіх рукапісах У. Караткевіч...

Няшмат падтрымкі мелі мы ад творчых саюзаў. Дапамагаюць толькі асобныя навукоўцы і літаратары, якія па-сапраўднаму зацікаўлены ў захаванні нацыянальнай гісторыі. Вялікая ім за гэта ўдзячнасць. Некаторыя, дарэчы, прысутнічаюць за гэтым сталом.

**Каханоўскі.** Працаваў я не так даўно ў дзяржаўным архіве г. Тарту — і міжволі параўноўваў. Там пяціпавярховы сучасны будынак, прасторная чытальная зала...

**Сурмач.** ...А тут былая царква і цесныя пакойчыкі. Дарэчы, Мінск — ці не адзіны горад, які не мае гарадскога архіва.

(Заканчэнне на стар. 6).

*Наш каляндар*

## ЗНАЎЦА РОДНАГА СЛОВА

Крытык і літаратуразнаўца Алесь Антонавіч Макарэвіч (у мінулым месяцы яму споўнілася б 70 гадоў) шмат зрабіў за сваё нядоўгае жыццё. Ён — аўтар кніг «Сатыра Кандрата Крапівы», «Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік», «Ад жыцця і дума́к народных», «Фальклорныя матывы ў драматургіі Янкі Купалы», а таксама шматлікіх артыкулаў і рэцэнзій, якія публікаваліся не толькі ў беларускім перыядычным друку, але і ў маскоўскіх, ленінградскіх, украінскіх, малдаўскіх, польскіх і іншых газетах і часопісах. Ім напісаны раздзелы вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў ВНУ — «Беларуская дзіцячая літаратура», «Беларуская вуснапаэтычная творчасць», манаграфія «Фальклорныя матывы ў драматургіі Янкі Купалы» і другое выданне «Кароткага літаратуразнаўчага слоўніка» — дапрацаванага і дапоўненага.

Карыстаюцца сёння настаўнікі і студэнты і іншымі кнігамі і артыкуламі Алеся Макарэвіча, якія напісаны з вялікай любоўю да роднай Беларусі, з шчырым жаданнем даследаваць, прапагандаваць лепшыя здабыткі беларускай літаратуры, узнімаць прэстыж беларускай нацыянальнай навукі, культуры і мовы. У гэтым бачыў ён галоўную мэту сваёй рознабаковай дзейнасці.

Перад вайной пасля заканчэння Мінскага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага, ён нядоўга настаўнічаў на Гомельшчыне.

Быў удзельнікам жорсткіх баёў пад Ноўгарадам-Валынскім, потым пад Ельняй. Цяжка паранены трапіў у палон. Прайшоў праз пекла фашысцкіх канцлагераў, зведаў катаванні, здзекі, голад, але выжыў і пасля вызвалення з палону ізноў змагаўся. За ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне адзначаны ўзнагародай. Спатрэбіліся і настойлівасць, і воля, і напорыстасць, каб ажыццявіць задуманае, і сціплы, *нават крыху сарамлівы* Алесь Макарэвіч, які настаўнічаў тады ў Талькаўскай сярэдняй школе Пухавіцкага раёна, выявіў гэтыя якасці, бо вельмі хацеў вучыцца далей. У 1947 годзе ён стаў аспірантам кафедры беларускай літаратуры Мінскага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага.

З 1949 года Алесь Антонавіч працаваў у Магілёўскім педінстытуце, тут стаў кандыдатам філалагічных навук, дацэнтам, быў пэўны час дэканам філалагічнага факультэта, выконваў абавязкі загадчыка кафедры беларускай літаратуры, набыў аўтарытэт і прызнанне і як вучоны, і як педагог, і як сумленны, прынцыповы чалавек, *бязмежна адданы* роднай Беларусі. Заўсёды адкрыта і смела даказваў права беларускай мовы на шырокае ўжыванне, ганарыўся ёю, з абурэннем гаварыў пра тое, што існаваўшыя тады адносіны да нацыянальных моў супярэчылі прынцыпам ленінскай нацыянальнай палітыкі. Заўзяты абаронца, дасканалы знаўца роднага слова, *Алесь Макарэвіч не абмяжоўваўся* лекцыямі ў інстытуце, работай са студэнтамі ў навуковым гуртку па праблемах беларускай савецкай літаратуры, удзелам у шматлікіх літаратурных вечарах, дыспутах, сустрэчах. Ён нёс беларускае слова ў шырокія масы, не шкадаваў дзеля гэтага ні часу, ні натхнення. Заўчасная смерць абарвала многія задумы аўтара. Аднак тое, што зроблена гэтым няўрымслівым чалавекам, дае падставу сцвярджаць: ён споўніў свой сыноўні абавязак перад роднай зямлёй.

Маргарыта ЯФІМАВА.

*Ля кніжнай паліцы*

# ПРАЗ ДЫЯЛОГ—АБ НАБАЛЕЛЫМ

Жанр дыялога, інтэрв'ю, гутаркі дазваляе аператыўна адгукацца на найбольш значныя падзеі ў жыцці і творчасці. Асабліва яго значэнне ўзрастае сёння, калі адбываецца далейшая дэмакратызацыя савецкага грамадства, нормай становіцца плюралізм думак і, зразумела, шматлікім чытачам (гэтаксама як і радыёслухачам, тэлегледачам) хочацца ведаць, што мяркуюць па тым ці іншым пытанні, як ставяцца да пэўнай з'явы вядомыя грамадскія дзеячы, вучоныя, пісьменнікі, прадстаўнікі іншых творчых прафесій.

Сярод тых, хто працуе ў гэтым жанры даўно і плённа, не здраджваючы яму, і Аляксей Гардзіцкі. Першая ўжо яго кніга «Дыялогі», выпушчаная яшчэ ў 1968 годзе, была прыхільна сустрэта і чытачамі, і крытыкай. З яе старонак загучаў голас многіх вядомых беларускіх пісьменнікаў. Праз чатыры гады пабачыў свет зборнік «Сустрэчы», тым самым дыялогі аб жыцці, літаратуры, яе надзённых праблемах былі прадоўжаны. Потым у А. Гардзіцкага выйшла кніга «Вачыма сяброў» — зноў дыялогі, гутаркі, інтэрв'ю, але, як ужо бачна з яе назвы, кола субяседнікаў крытыка і літаратуразнаўцы пашырылася. У гаворку ўключыліся вядомыя літаратары з іншых саюзных рэспублік, а таксама з замежных краін. Найперш, вядома, тыя, хто перакладае беларускую літаратуру, шчыра прапагандуе яе ў сябе на радзіме.

Новая кніга А. Гардзіцкага «Гутаркі»—яе толькі што выпусціла выдавецтва «Мастацкая літаратура» — своеасаблівы працяг папярэдніх зборнікаў аўтара. Творчую манеру яго пазнаеш адразу. З аднаго боку, ён старанна дбае аб выбары будучага субяседніка, скіроўваючы найперш увагу на тых літаратараў, чыя творчасць знаходзіцца ў полі зроку шырокага чытача. З другога ж, А. Гардзіцкі не абмяжоўваецца так званымі «дзяжурнымі» пытаннямі — аб пачатку мастакоўскай дарогі, літаратурных настаўніках, творчых схільнасцях, планах і г. д., хоць і без іх у гутарцы цяжка абысціся. Не абмяжоўваецца — і ідзе далей, спрабуючы высветліць нават тое, што, на першы погляд, непасрэдна да творчасці і не мае прамога дачынення, тым не менш нейкім чынам уплывае на яе.

Інакш кажучы, у інтэрв'ю ёсць і пытанні, як бы інтымнага плана, але гэта не пераходзіць межы «дазволенага». І далей, нельга не прыняць пад увагу, што гутаркі А. Гардзіцкага не ўкладваюцца (і гэта добра!) у звыклую схему — пытанне-адказ. Ён дазваляе сабе расказаць пра саму атмасферу, у якой адбываецца дыялог, -перадае ўнутраны стан свайго субяседніка і свой уласны, па неабходнасці звяртаецца да выказванняў іншых аб творчасці гэтага пісьменніка. *Нават форма дыялога мяняецца.* Шматлікія адступленні «працуюць» на чытача, дапамагаючы яму загадзя нямала даведацца пра таго ці іншага літаратара, каб потым звесткі гэтыя ўдакладніць, пашырыць ужо з яго асабістых выказванняў. *Гэта найперш важна тады,* калі адбываецца гутарка з замежным пісьменнікам ці прадстаўніком якой-небудзь братняй літаратуры, чыя творчасць у рэспубліцы не так добра вядома, як таго хацелася б.

Праўда, і ў гутарцы з вядомымі беларускімі пісьменнікамі такія аўтарскія адступленні не выглядаюць лішнімі. Не заўсёды ж субяседнік скажа ўсё, што хацелася б ведаць чытачу (сёе-тое не назаве з-за звычайнай чалавечай і мастакоўскай сціпласці). У гэтым сэнсе паказальныя «Гутаркі з Васілём Быкавым», якімі адкрываецца кніга. Па сутнасці, разам аб'яднаны запісы пяці гаворак, што адбыліся з рознай нагоды на працягу 1976—1984 гадоў. Гэта і адказы на пытанні пачаткоўцаў у час дзвюх традыцыйных *каралішчавіцкіх нарад маладых* пісьменнікаў, і ўражанні ад асабістай сустрэчы з Васілём Уладзіміравічам, і яго гутарка з балгарскімі калегамі (тут жа, і іх меркаванні пра творчасць В. Быкава), і адказы на пытанні літаратурнага зборніка «Далягляды».

Скампанаваць разам гэтыя матэрыялы няпроста. Тым больш, калі ўлічыць, што на пытанні карэспандэнтаў В. Быкаў адказвае вельмі часта, магчымы і некаторыя паўторы. Перад пачаткам чарговай гаворкі з А. Гардзіцкім, ён паскардзіўся, «што многія да яго звяртаюцца з просьбай аб інтэрв'ю: «Вось і зараз на стале ляжаць тры лісты з пытаннямі, чакаюць сваёй чаргі. Прытым, часта бывае так, што пытанні або зусім не тычацца літаратуры, або паўтараюцца, я ўжо некалі на іх адказваў». Значыць, захоўваючы пачуццё меры, трэба своечасова адмаўляцца ад таго, што з цягам часу ў інтэрв'ю будзе выглядаць неабавязковым, лішнім, не дадасць нічога новага да разумення *творчага вобліку вядомага пісьменніка.*

Аляксей Гардзіцкі паспяхова пазбягае ў асноўным «хваробы» таго, хто бярэ інтэрв'ю—ахапіць неахопнае, абавязкова запісаць усё, што пачуў. На суд чытача выносіцца толькі самае галоўнае. Галоўнае ж гэтае ў тым, што яно дазваляе глянуць на В. Быкава «зблізку», самому чытачу стаць як бы ўдзельнікам гаворкі з ім. Зразумець яго як пісьменніка, чалавека, грамадзяніна, на імгненне зазірнуўшы ў святая святых — мастакоўскую лабараторыю.

В. Быкаў не прэтэндуе на ісціну ў апошняй інстанцыі, ён проста гаворыць тое, што думае, што хвалюе і непакоіць яго. Да развыг яго нельга не прыслухацца. Хоць бы да гэтай, як адказ на пытанне: «Чым павінен кіравацца мастак, каб стварыць такую кнігу, якая стала б сучаснай на многія гады?» Адказ па-быкаўску лаканічны і вычарпальны: «Тут, на мой погляд, вырашаюць тры ўмовы. Першая — талент. Другая — сумленнасць мастака. Трэцяя — грамадская атмасфера, гэта значыць магчымасць з'яўлення кнігі». Гаварылася яшчэ ў 1977 годзе. Сёння мы ўсе самі бачым, як «грамадская атмасфера» спрыяе нараджэнню высокапраўдзівых, актуальных, сучасных твораў.

«Гутаркі з Васілём Быкавым», стаўшы запеўкай кнігі, паступова выводзяць А. Гардзіцкага ў гаворцы з іншымі пісьменнікамі на шэраг надзённых праблем сучаснага літаратурнага жыцця. Сярод іх і тыя, што сёння стаяць асабліва востра — творчыя кантакты і ўзаемасувязі з братнімі літаратурамі, пашырэнне перакладчыцкай дзейнасці. У творчую лабараторыю аднаго з самых вядомых нашых перакладчыкаў, Я. Семяжона, дазваляе зазірнуць інтэрв'ю «Паверaны ў справах». Гаворка закранае і тэарэтычныя пытанні перакладу, і адначасова выводзіць на перакладчыцкі вопыт самога Я. Семяжона, які разважае аб ролі перакладу на сучасным этапе, выказвае сваё стаўленне да падрадкоўніка, гаворыць пра значэнне асабістых кантактаў з пісьменнікамі, якіх перакладаеш (калі гэта вядома, магчыма), і г. д.

Працяг гэтай тэмы — у іншых гутарках: «Пераклад — гэта донарства» (з Рымай Казаковай), «Вечнае абнаўленне, або Крыху пра ўрокі класікі» (з Раманам Лубкіўскім), «Аддаю сябрам» (з Юліем Ванагам), «Хлопцы, трэба перакладаць!» (з Эўгеніюсам Матузявічусам), «Сувязі» (з Олевам Йыгі)... У гэтых дыялогах А. Гардзіцкі ідзе двума шляхамі. У адных выпадках ён «адштурхоўваецца» ад асабістага вопыту перакладчыка, на аснове якога закранае вырашаныя і нявырашаныя яшчэ праблемы. У другіх — зазірае ў вытокі ўзаемасувязяў двух братніх народаў, каб прасачыць, як кантакты гэтыя цяпер набываюць свой арганічны працяг. Абодва прынцыпы апраўданы. Канечне, пры ўмове, што гутаркі не стануць паўтараць адна другую. Ну ды паўтораў А. Гардзіцкі якраз паспяхова і пазбягае, кожны раз пры сустрэчах з новым субяседнікам імкнецца пачаць гаворку ненавязліва, найчасцей выкарыстоўваючы факт, які, як кажуць, сам бярэ на сябе значную нагрузку. Напрыклад, у гаворцы з Р. Казаковай на першы план выступае тое, што бацька яе родам з Беларусі, а маленства прайшло пад Полацкам. Інтэрв'ю з Р. Лубкіўскім пачынаецца з расказу су*бяседніка аб тым, як у Львове* праходзіла святкаванне 90-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча (а далей робіцца выхад на праблемы перакладу творчасці нашага класіка на Украіне).

Даўнія кантакты ў А. Гардзіцкага з польскімі літаратарамі, у якіх ён неаднаразова браў інтэрв'ю. У кнізе — працяг такіх сустрэч («У Войцеха Жукроўскага», «У дарозе на Аюдаг з Ружэвічам»). З цікавасцю чытаецца «Размова з Вацлавам Жыдліцкім» — ёсць *пра што расказаць вядомаму* перакладчыку і прапагандысту беларускай літаратуры ў Чэхаславакіі. Пазнаваўчы матэрыял і ў інтэрв'ю «Памятаць пра мінулае дзеля будучыні» — на гэты раз субяседнікі А. Гардзіцкага амерыканскія пісьменнікі, якія, *як мы памятаем,* прымалі ўдзел у правядзенні савецка-амерыканскага «круглага стала», прысвечанага тэме «Роля пісьменніка ў захаванні агульначалавечых каштоўнасцей». Гутарыць аўтар і з балгарскім паэтам Анастасам Стаянавым («Паездка ў Вязынку»), перакладчыкам рускай і савецкай літаратуры з Афганістана Махамадам Алемам Данешварам («Дар за дар»)...

Не сказаць, каб не было цікавай інфармацыі і ў такіх матэрыялах, як «Сустрэча з Арменіяй» і «Каласы дружбы», сустрэча з прадстаўнікамі ўзбекскай літаратуры. Аднак, калі параўноўваеш іх з іншымі публікацыямі, то заўважаецца, што яны значна прайграюць. Прычына, мабыць, у тым, што тут над пісьменніцкім аналізам бярэ верх журналісцкі падыход.

P. S. Калі рэцэнзія была напісана, у газеце «Известия» (нумар за 13 жніўня г. г.) прачытаў інтэрв'ю з В. Астаф'евым. Звярнуў увагу і на свайго роду пасляслоўе крытыка В. *Курбатава: «Аб чым можна* выпытаць за гадзіну-паўтары, дзень, тыдзень? Па ўсім відаць, аб усім жыцці, але вялікі мастак тым і цудоўны, што і малое ў яго будзе адрозніваецца не толькі аб'ёмам, а і сутнасцю. У гэтых простых развагах няма нічога незвычайнага ці асабліва новага, але ў іх ёсць больш дарагое — інтанацыя жыцця, якое дастойна і непаспешліва працягваецца, а таксама разуменне, што гісторыя не нейкая адцягнутая дысцыпліна, а збор чалавечых лёсаў і меркаваць аб ёй трэба беражліва і цярпліва, з усведамленнем каштоўнасці кожнага, асобна ўзятага лёсу».

Падумалася, што менавіта ж у такім плане зроблены і інтэрв'ю А. Гардзіцкага. За кожным пісьменніцкім лёсам — народ, які даў гэтага пісьменніка. За кожным творам — літаратура, якая ўсё папаўняецца новымі творамі.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

# Праўда з першых рук

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

**Каханоўскі.** *Як я разумею,* нейкі першы пласт архіўных матэрыялаў мы ўжо распрацавалі. Ён трапіў у навуковыя працы, у друк, але ж ёсць яшчэ і глыбінныя пласты. Яны размеркаваны па многіх сховішчах Савецкага Саюза і за мяжой. Мінулым годам пабываў я ў Чабаксарах. Здавалася б, што там можа быць беларускае? Але ж у Чувашыі жылі высланыя паўстанцы 1863 года, там іх лёсы, жыцці, там усё. На *добры толк павінна* існаваць картатэка ўсіх гістарычных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі рэспублікі.

**Міхальчанка.** Наконт распрацаваных пластоў: мы літаральна сядзім на мяшках з інфармацыяй! З кожных 100 дакументаў выкарыстоўваецца 2—3.

**Сурмач.** Прычым працуюць адны і тыя ж даследчыкі.

**Міхальчанка.** У ліпені я прысутнічаў на «круглым стале» гісторыкаў, дзе ішла гаворка аб утварэнні БССР. Кіпелі страсці, гучалі процілеглыя ацэнкі тых ці іншых з'яў, асоб, а між тым літаральна двое-трое з прысутных мелі справу з рэтраінфармацыяй. Астатнія гадамі не бываюць у архівах, аднак гэта не перашкаджае ім пра ўсё меркаваць безапеляцыйна.

**Кісялёў.** Варта закрануць і такое важнае пытанне, як тэхніка капіравання ў дзяржаўных архівах. Заказаць фота, ксеракопію, мікрафільм даволі няпроста.

**Селяменеў.** Дарэчы, да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка мы заказалі некалькі мікрафільмаў, і іх дасюль не зрабілі.

**Міхальчанка.** Так, мы пакуль што марнатраўцы чужога часу. Праўда, нам да канца года абяцаюць новую тэхніку.

**Скалабан.** Трэба сказаць, што праца даследчыка — цяжкая праца, для яе неабходна спецыяльная падрыхтоўка. Вось чаму не ідуць часам і ў адкрытыя архівы. Няшмат выдадзена ў нас такіх выдатных зборнікаў дакументаў, як «Мастацтва Савецкай Беларусі» ў 2-х тамах, «Пачынальнікі» Г. Кісялёва і іншыя яго кнігі.

**Ялугін.** Што тычыцца нас, пісьменнікаў, то для нас толькі пачынаецца сур'ёзная праца ў архівах. Ва ўсім свеце зараз да дакумента, дакументальнай прозы вялікая цікавасць.

**Міхальчанка.** Бо дакумент — праўда з першых рук.

**Ялугін.** Тое, што нас сабраў за «круглым сталом» штотыднёвік — гэта і важна, і ў нечым паказальна. Гэта і ёсць тая прапаганда, пра якую гаварыў Барыс Сачанка.

**Сурмач.** Застаецца заклікаць прадстаўнікоў культуры і навукі: прыходзьце ў архівы!

*Працяг размовы*

# ЯШЧЭ НЕ ПОЗНА

**Артыкул І. Кудраўцава «Баліючы роздум» («ЛіМ», 17 чэрвеня 1988 г.) узняў шэраг важных пытанняў, звязаных з падрыхтоўкай шматтомнай навуковай працы «Гарады і вёскі Беларусі», якая вядзецца некалькімі калектывамі па ініцыятыве і пад эгідай Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Я як адзін з выканаўцаў гэтай тэмы падзяляю яго заклапочанасць навуковым узроўнем будучага выдання.**

Для гэтага, на мой погляд, падстаў хапае. Асаблівы клопат выклікае тое, як у ім будзе адлюстравана складаная для вывучэння (з прычыны пераважна беднасці пісьмовых крыніц) шматвяковая гісторыя нашых паселішч у эпоху феадалізму. Як вядома, галоўны цяжар іменна гэтай часткі работы кіраўніцтва АН БССР камандна - адміністрацыйным метадам у канцы 1985 г. ускладала на нядаўна (1980 г.) створаны вельмі малалікі для глыбокага вывучэння ўсіх асноўных праблем тысячагадовага развіцця грамадства аддзел гісторыі Беларусі эпохі феадалізму Інстытута гісторыі (загадчык аддзела — доктар гістарычных навук В. І. Мялешка).

Перш за ўсё неабходна падкрэсліць, што ў афіцыйных дакументах згаданая тэма фармулюецца «Гарады і вёскі Беларусі», хоць адной з галоўных задач яе з'яўляецца асвятленне «сацыяльна - эканамічнага і культурнага развіцця гарадоў і вёсак да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі». Цяперашняя назва арыентуе на перавыданне «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», дапоўненага кароткімі гістарычнымі даведкамі аб паселішчах. Але даўно наспела патрэба ў нацыянальнай фундаментальнай гісторыка-краязнаўчай працы аб населеных пунктах Беларусі як комплексных помніках развіцця нашай цывілізацыі. Таму назву такой працы мэтазгодна ўдакладніць—«Гісторыя гарадоў і вёсак Беларусі».

Вядома, што тэрмін выканання такой працы абумоўліваецца шэрагам аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў. Сярод іх важнейшымі з'яўляюцца: 1) колькасць населеных пунктаў, гісторыю якіх трэба вывучыць; 2) ступень прынятай паўнаты асвятлення іх гісторыі на ўсіх этапах развіцця; 3) забяспечанасць іх вывучэння крыніцамі і гістарыяграфіяй; 4) колькасць і кваліфікацыя супрацоўнікаў; 5) узровень арганізацыі працы. Пакуль што кіраўніцтва наверсе і ўнізе слаба лічыцца з гэтымі фактарамі, таму спадзявацца на высокі навуковы ўзровень гэтай працы цяжка.

Зніжэнне навуковага ўзроўню працы абумоўлена ўжо тым, што запланавана асвятліць развіццё толькі «цяпер функцыяніруючых населеных пунктаў». Забыццё тых паселішчаў, якія па розных прычынах зніклі, палягчае работу, але ці апраўданае яно? Іх жыхары на працягу стагоддзяў уносілі свой уклад у развіццё краіны, таму памяць аб такіх паселішчах не павінна знікнуць бясследна.

Да гэтага часу застаецца нявырашаным важнае пытанне аб ступені паўнаты асвятлення гісторыі паселішчаў. Тут яшчэ пануе стыхія, таму што да матэрыялаў для гістарычных даведак аб паселішчах у абавязковым парадку не прад'яўляецца патрабаванне наяўнасці звестак аб узнікненні або першым упамінанні паселішч у пісьмовых крыніцах, а таксама звестак на кожнае стагоддзе іх існавання. Паколькі выяўленне ранніх звестак па розных *прычынах з'яўляецца справай* вельмі марудная, а пануючая цяпер арыентацыя на «вал», а не на якасць матэрыялаў, не спрыяе такім пошукам, таму гістарычныя даведкі аб большасці паселішчаў не маюць такіх звестак. Так здарылася з «Гарадамі і вёскамі Беларусі: Магілёўская вобласць», збор матэрыялаў для якіх закончаны ў мінулым годзе. Нягледзячы на тое, што сабраныя матэрыялы аб прыкладна 2400 населеных пунктах з 3500 не дазваляюць скласці паўнацэнныя гістарычныя даведкі аб большасці з іх, таму што ў іх адсутнічаюць раннія звесткі пры перавазе позніх, Вучоны савет Інстытута гісторыі АН БССР тым не менш прызнаў тэму выкананай.

Работу па збору звестак аб паселішчах значна ўскладняе вельмі дрэнная забяспечанасць тэмы крыніцамі, асабліва за перыяд да XVII ст., і гістарыяграфіяй. У прыватнасці, у архівах няма геаграфічных картатэк; не маем мы і грунтоўных навуковых прац па гісторыі значнай часткі гарадоў і амаль усіх гарадскіх пасёлкаў, не гаворачы ўжо пра ўсе вёскі. Вельмі замаруджвае адказную і складаную работу па ідэнтыфікацыі і лакалізацыі паселішчаў, якія ўпамінаюцца ў крыніцах да XVIII ст. часта без адпаведных прыкмет, адсутнасць у інстытуце старых і сучасных буйнамаштабных карт Беларусі. Блытаніна паселішчаў можа прывесці да непажаданых непаразуменняў. Так, толькі недапушчальна несур'ёзнымі адносінамі да гэтага пытання абумоўлена традыцыйнае памылковае атаясамленне старадаўняга мястэчка Масты (цяпер вёска Правыя Масты), вядомага з 1486 г., з горадам Масты, які ўзнік толькі ў пачатку XX ст. Таму матывіроўка Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР 3 кастрычніка 1986 г. аб узнагародзе г. Масты Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР «... у сувязі з 500-годдзем з дня заснавання...» не адпавядае рэчаіснасці.

Мае неаднаразовыя выступленні ў калектыве аб незадавальняючай забяспечанасці тэмы выканаўцамі і аб нізкім узроўні арганізацыі работы з боку загадчыка аддзела былі амаль безвыніковымі. Пад рознымі падставамі ён катэгарычна адмаўляўся ўключыць у гэту работу сваіх супрацоўнікаў: праца «наймітамі» ІМЭФ АН БССР у складзе так званага «часовага творчага калектыву» выключае магчымасць творчага росту на шмат гадоў. Ва ўмовах перыядычнай атэстацыі гэта вельмі небяспечна, *таму што вялікі «вал» па гэтай* тэме даць цяжка. Толькі пасля крытычнага артыкула І. Кудраўцава «Гісторыя з гісторыяй» («Советская Белоруссия», 28 верасня 1986 г.) бюро Аддзялення грамадскіх навук АН БССР абавязала кіраўніцтва інстытута ўмацаваць калектыў, які працаваў над тэмай, дадатковымі супрацоўнікамі. З пачатку гэтага года яе выконваюць не два супрацоўнікі, як спачатку, а сем. Але ўпэўненасці ў тым, што за тры гады (1988—90) яны здолеюць выканаць тэму ў вызначаны тэрмін і на высокім навуковым узроўні, г. зн. адшукаць і сабраць гістарычныя матэрыялы для паўнацэнных даведак аб больш 5000 існуючых *паселішчах* Мінскай вобласці, пакуль што няма і быць не можа.

Разам з гэтым неабходна падкрэсліць, што вымушанае пераключэнне большасці (сямі з дванаццаці) супрацоўнікаў аддзела на тэму «Гарады і вёскі Беларусі» амаль поўнасцю выключае магчымасць як новага вывучэння традыцыйных праблем сацыяльна-эканамічнага развіцця з мэтай пераадолення склаўшыхся ў гістарыяграфіі дагматычных стэрэатыпаў, так і распрацоўкі шматлікіх так званых «белых плям» гісторыі Беларусі эпохі феадалізму, што патрабуе перабудова гістарычнай навукі. Але, на жаль, крытыкі, агульна папракаючы ў несумленнасці толькі гісторыкаў, тым самым самі істотна скажаюць праўду аб прычынах гэтай з'явы: усім вядома, што ў часы культу асобы Сталіна і брэжнеўшчыны кардынальная праблема арганізацыі гістарычнай навукі — што і як вывучаць — вырашалася не столькі адпаведнымі калектывамі высокакваліфікаваных спецыялістаў, колькі нават галоўным чынам бюракратамі з так званых дырэктыўных органаў. І сёння яшчэ нельга сцвярджаць, што ўсё гэта — толькі ўчарашні дзень гістарычнай навукі Беларусі. Гісторыя з арганізацыяй работы па тэме «Гарады і вёскі Беларусі» — яркі доказ гэтаму.

Справа яшчэ і ў тым, што дагэтуль застаецца нявырашаным комплекс пытанняў, якія звязаны з навуковай арганізацыяй працы над тэмай «Гарады і вёскі Беларусі». Перамагаючы ўпартае супраціўленне загадчыка аддзела, удалося дабіцца замены абсалютна немагчымай празмернай нормы нагрузкі (сабраць звесткі ад IX ст. да 1861 г. прыкладна аб 1000 паселішчах у год) на адносна рэальную (сабраць звесткі ў асноўным за XVI стагоддзе аб 100 паселішчах у год). Норма нагрузкі тых супрацоўнікаў, якія збіраюць матэрыялы за XVIII — першую палову XIX ст., прыкладна ў пяць разоў большая, таму што ад гэтага часу да нас дайшла значная колькасць крыніц з масавымі звесткамі аб паселішчах (інвентары, «эканамічныя заўвагі» да атласаў губерняў і інш.). Пераход да збору звестак па храналагічнай гарызанталі, а не вертыкалі значна павысіў эфектыўнасць працы, але з-за недахопу супрацоўнікаў не можа гарантаваць збор ранніх матэрыялаў аб усіх паселішчах. Так, пры норме 100 паселішчаў у год тры супрацоўнікі, якія вывучаюць у асноўным XVI ст., за тры гады павінны сабраць матэрыялы аб 900 паселішчах. Хто і калі будзе шукаць раннія матэрыялы аб астатніх населеных пунктах Мінскай вобласці? Зноў, як і ў Магілёўскай вобласці, будзе дзе густа, а дзе пуста. Наогул нарміраванне нагрузкі па гэтай тэме — вельмі складаная справа. Улічваючы неаднолькавую цяжкасць пошуку звестак за розныя стагоддзі, колькасць паселішчаў, як і лістаж, не можа служыць «кантрольнай меркай» уліку і ацэнкі працы: пошук матэрыялаў аб роўнай колькасці паселішчаў за розныя стагоддзі патрабуе вельмі рознай колькасці працы і часу. Як арганізаваць працу ў поўным сэнсе навукова, пакуль што ніхто не ведае.

Лічу, што цяперашні прынцып «вобласць — том» ігнаруе неаднолькавую колькасць паселішчаў у розных абласцях і адпаведна гістарычных матэрыялаў і павінен быць адхілены. Абмежаванасць аб'ёма выдання можа стаць «законнай» падставай для скарачэння, калі спатрэбіцца, гістарычных матэрыялаў, як гэта традыцыйна практыкуецца, найперш феадальнай эпохі як «не актуальнай». Але такое скарачэнне гістарычных звестак сёння масавы чытач не ўхваліць. Кожнай вобласці трэба прысвяціць столькі тамоў, колькі гэта патрабуюць канкрэтныя матэрыялы. «Гісторыя гарадоў і вёсак Беларусі» па інфармацыйнасці павінна быць больш грунтоўнай, чым выдадзены сто гадоў таму назад пятнаццацітомны «Геаграфічны слоўнік» польскіх і суседніх славянскіх зямель.

Мэтазгодна, відаць, яшчэ раз правесці шырокае грамадскае абмеркаванне праграмы працы «Гісторыя гарадоў і вёсак Беларусі». Гэта, у прыватнасці, дазволіць пазбегнуць многіх недахопаў, якія звычайна характэрны для гісторыка-краязнаўчых прац: схематызм, непаўната, паверхоўнасць і недакладнасць асвятлення багатай гісторыі населеных пунктаў Беларусі, асабліва эпохі феадалізму.

Думаецца, што задачу напісання фундаментальнай гісторыі населеных пунктаў Беларусі, а таксама больш дасканалай арганізацыі і каардынацыі ўсёй гісторыка-краязнаўчай работы ў рэспубліцы з мэтай значнага павышэння яе навуковага ўзроўню можна вырашыць толькі шляхам стварэння ў складзе Інстытута гісторыі АН БССР спецыяльнага аддзела гістарычнай геаграфіі і картаграфіі. Даўно наспеўшая неабходнасць такога навуковага падраздзялення дыктуецца перш за ўсё занядбайнасцю згаданай галіны гістарычнай навукі Беларусі. Адной з важнейшых яго задач павінна таксама стаць падрыхтоўка Гістарычнага атласа Беларусі шляхам выяўлення і вывучэння ўсіх пісьмовых крыніц, у тым ліку і старадаўніх карт. Ва ўмовах узмацнення інтарэсу да гісторыі Бацькаўшчыны і актывізацыі гісторыка-краязнаўчага руху стварэнне такога атласа, як, між іншым, і новага комплекснага Атласа Беларускай ССР, трэба лічыць адной з актуальных задач гістарычнай навукі.

**М. СПІРЫДОНАЎ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР.**

## Кнігапіс




І. НАВУМЕНКА. У бары на світанні. Аповесці. На рускай мове. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1988.

**Змест гэтай кнігі склалі такія аповесці Івана Навуменкі, як «Апошняя восень», «Развітанне ў Кавальцах», «Замець жаўталісця» і іншыя, перакладзеныя на рускую мову А. Астроўскім, М. Гарбачовым, Л. Салаўём, Р. Веташкінай, В. Элькіным.**




В. КАЗЬКО. Судны дзень. Аповесці. На рускай мове. М., «Молодая гвардия», 1988.

**Кніга Віктара Казько «Судны дзень» выпушчана ў міжвыдавецкай серыі «Бібліятэка юнацтва». У яе ўвайшлі, акрамя аднайменнай аповесці, «Вісакосны год» і «Аповесць аб беспрытульным каханні». Аўтар прадмовы «Выпакутавана — завешчана» крытык Уладзімір Карабаў.**



А. КАПУСЦІН. Салёная раса. Нарыс. Дакументальная аповесць. Апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

**У кнігу «Салёная раса» ўвайшлі некаторыя з твораў, напісаных Аляксандрам Капусціным у апошні час. Адкрываецца зборнік нарысам «Добры дзень, таварыш генерал», у якім узнаўляецца воблік легендарнага генерала Леаніда Рыгоравіча Пятроўскага, воіны якога праявілі выключныя прыклады мужнасці і гераізму ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Своеасаблівым працягам нарыса стала дакументальная аповесць «Салёная раса», герой яе капітан Ф. Баталаў, батальён якога таксама вызначыўся ў баях за вызваленне Жлобіна ў ліпені 1945 года.**




М. ГАМОЛКА. Лясная крэпасць. Аповесць. На ўкраінскай мове. Кіеў. «Вэсэлка», 1988.

**У 1980 годзе аповесць Міколы Гамолкі «Лясная крэпасць» выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», крыху пазней пабачыла свет у *«Молодой гвардии»* ў папулярнай серыі «Страла». І вось выданне на Украіне. Дапамог героям твора «загаварыць» з юнымі чытачамі паўкраінску вядомы на Украіне перакладчык беларускай літаратуры Р. Кулініч.**

## Новае выданне Быкава

**«Кар'ер» — так называецца кніга Васіля Быкава, выпушчаная выдавецтвам *«Кніжная палата»*. Яна пабачыла свет у серыі «Папулярная бібліятэка», якая заснавана ў 1987 годзе і фарміруецца на аснове вывучэння чытацкага попыту сацыёлагамі Інстытута кнігі.**

**Перад гэтым у бібліятэцы выйшлі такія папулярныя творы, як «Белае адзенне» У. Дудзінцава, «Новае прызначэнне» А. Бека, «Мужыкі і бабы» Б. Мажаева, паэмы А. Твардоўскага.**

**В. ЗАКРЭЎСКІ.**

## Дэлегацыя з Польшчы

**Беларусь наведала дэлегацыя польскіх пісьменнікаў у складзе Леха Канапіньскага, Зыгмунта Фліса, Багуслава Пастэрнака, Міхала Шаховіча, Анджэя Ястжэбеца-Казлоўскага. Госці пазнаёміліся з памятнымі мясцінамі горада-героя Мінска, наведалі літаратурныя музеі Янкі Купалы і Якуба Коласа, пабывалі на радзіме народных песняроў у Вязынцы і Мікалаеўшчыне, зрабілі экскурсію па мясцінах, звязаных з жыццём Адама Міцкевіча і Уладзіслава Сыракомлі, — Мір, Навагрудак, Нясвіж, возера Свіцязь.**

**У СП БССР адбывалася гутарка, у якой удзельнічалі сакратары праўлення Алесь Жук і Валерый Скварцоў, пісьменнікі Нічыпар Пашкевіч, Міхаіл Дубянецкі, Аляксей Гардзіцкі, Алесь Емяльянаў. Гаворка ішла аб далейшым умацаванні традыцыйных творчых сувязей паміж польскімі і беларускімі літаратарамі.**

## З клопатам пра маладых

**На сумесным пасяджэнні Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў рэспублікі і літаратурнага аб'яднання «Прыдняпроўе» пры рэдакцыі газеты «Магілёўская праўда» гаворка ішла аб творчасці маладых аўтараў. Сакратар аддзялення І. Аношкін і выконваючы абавязкі адказнага сакратара абласной газеты М. Рудкоўскі адзначылі поспехі мясцовых літаратараў, гаварылі аб нявырашаных пытаннях.**

**У размове ўдзельнічалі пісьменнікі П. Шасцерыкоў, Я. Усікаў, А. Кандрусевіч, члены і кіраўнікі мясцовых літаб'яднанняў В. Крыжэвіч, В. Вераб'ёва, М. Мінчанка, В. Габрусева і іншыя.**

**Выбраны савет літаб'яднання «Прыдняпроўе», які ўзначаліў член Саюза пісьменнікаў БССР, паэт А. Мельнікаў.**

**А. РАЖОК.**

### З паэтычнай пошты

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

## ГАВАРЫЦЕ, ЛЮДЗІ...

●

Гаварыце, людзі, і адкрыта—
Пра вайну,
Пра мір,
Пра хлеб,
Пра квас.
І пра тых,
Хто ля свайго карыта,
Атлусцеўшы,
Неўпрыкмет заграз...

Вы ж былі не ўгоднікі-
маўчальнікі,
Вы ж не раз крычалі,
ды не ўслых.
Гаварылі ж найчасцей
«начальнікі»,
Знізу і да верху,
І—за ўсіх!

Гаварыце
пра ўсё зямное,
Што ў душы турботаю сядзіць,
Што грызе,
Што ные,
Непакоіць,
І не скажаш: «Сціхні, адыдзі!»

Гаварыце, людзі, гаварыце
Пра пустыні ў душах, скразнякі,
Пра сумленне, што
у дэфіцыце,—
З дабрабытам
Зблыталі дзялкі.

І чаму дзіравай стала памяць—
Пагубляла рэжі і лясы?
Як змаглі азёры ўсе
запляміць—
Адабраць чароўнасць
Іх красы?

І чаму, як год—дык меней
дзетак?
І чаму, як той палын-трава,
Развялося столькі
прайдзісветаў:
На нашчадка кожнага—
Па два?

Як праз шкло ружовых
акуляраў
Не хацелі заўважаць падман,
А хадзілі з п'яніцам у пары
Прастытутка,
Школьнік-наркаман?!

Гаварыце, людзі, гаварыце,
Пра жыццё,
Якім павінна быць.
Толькі горла дужа
не дзярыце—
Можна голас і давер згубіць.

Гаварыце, людзі, гаварыце,
Ды язык, вы знайце, не трапло,
Ды, як плугам тым,
Глыбей бярыце,—
Можа б, меней пырніку
ўзышло?

Не маўчыце, людзі, гаварыце,
Каб да нетраў
Сутнасці дайсці.
І хлусні скляпенні разбярыце
На падмуркі Праўдзе:
Ёй—расці!

●

Памяці Валянціна ДОНЧЫКА

Усё часцей
І іх вайна знаходзіць—
Запомніла,
Хоць і былі малымі...
Сыны палкоў
Памалу адыходзяць,
Услед
За пабрацімамі сваімі.

Да тых,
З кім у свінцовай крутаверці
Адным сцягам
На вернасць прысягалі,
Адной штодня
Глядзелі ў вочы смерці,
Адною зоркай
Сэрцы саграваллі.

Да тых,
З кім у агні,
у дыме,
пыле
Жылі адною прагай—
Помсты, бою,
Адзін сухар
На цэлы ўзвод дзялілі,
Прасолены
І потам, і крывёю.

З кім разматалі,
Ідучы на захад,
Дарог і сцежак,
Бы калючкі скрутак,
З адной біклагі
Наталялі смагу—
Пілі крынічны спеў
І даўкі смутак.

З кім сны адны—
Аб роднай хаце—снілі:
«Каб мог, як птах,
Злятаў бы ў далеч тую...»
І дружбу ад усіх
Адну цанілі—
Сапраўдную,
Салдацкую,
Святую!

Усё часцей
І іх вайна знаходзіць—
Запомніла,
Хоць і былі малымі...
Сыны палкоў
Памалу адыходзяць
Услед
За пабрацімамі сваімі:
У дол пясчаны,
У падзол,
Суглінкі,
За гарадскую ўскраіну,
За вёску,
Пакінуўшы, як памяць,
Фотаздымкі,
Пажоўклыя ад часу,
Як ад воску.

На іх—яны,
Сыны палкоў, падлёткі,
Глядзяць вачмі,
Прасякнутымі болем:
Дзяцінства іх,
Як успамін салодкі,
З сабой забралі
Чужакі ў няволю.

Сціскаюць зброю
Чэпкімі рукамі,
Рашучыя,
Падцягнутыя строга:
Былі палкі гвардзейскія—
Бацькамі,
Матуляю ж была ім—
Перамога.

●

Ці заслоняць сонца хмары,
Ці кране настрой панылы,
Ды цвітуць у сэрцы мары—
Наша сонца,
Нашы крылы.

Марыш—
Радасней жывецца.
Марыш—
Песня звонка льецца.
Марыш—
Крыўда не прачнецца,
Не падступіцца
Да сэрца.
Марыш —
Шчасцем зззяюць вочы.
Марыш —
Весняцца усмешкі.
У жыццё,
Да мэты крочыш—
І святлей не знойдзеш
Сцежкі.

З марай жыць—
Дружыць з красою,
Узлятаць увысь,
За хмары...
Чым чысцейшы ты душою,
Тым палёт вышэйшы
У мары.

**Алесь ДУБРОЎСКІ**

## ПАЛЕСКІ МАТЫЎ

●

Дзе сонца шмат, ды больш
вады,
Дзе лешч аж скача ў чоўны,
Такое месца — Даўляды
На поўдзень ад Нароўлі.

Ды што тлумачыць-гаварыць,
Таму ёсць сведка — Прыпяць,
Якую ўраз не пераплыць,
Як соку жбан не выпіць.

Дарогу ведалі сюды
Мазыр і Гомель людны,
Іх сустракалі Даўляды,
Давалі чоўны, вуды.

А бакеншчык — Нептун сівы
Скрозь раіў вір пры стрэчы:
«Там сом бярэ, як паплавы
У туман загорне вечар».

І, кажуць, шэнціла заўжды
Таму, хто моцны духам!

---

# «Курапаты—дарога смерці». Працяг тэмы

# НАРОД ПОМНІЦЬ!

ДВА гады назад давялося мне быць у камандзіроўцы ў в. Солан Старадарожскага раёна. Збіраў звесткі для музея. Разгаварыўся з Рыгорам Філіпенем (1905 г. н.). Яго бацька Фёдар меў «траціну» (6 га) зямлі, лічыўся ў серадняках. Адразу ў калгас не ўступіў, хацеў паглядзець, як яно будзе. Сустрэў неяк Фёдар знаёмага яўрэя з горада, а той і кажа яму: «Не ведаеш, што робіцца? Ідзі хутчэй у калгас, а то вывезуць і згнояць. Я ад сваёй маёмасці сам адмовіўся, каб выжыць». Паслухаўся чалавек добрай парады і выратаваўся. А хто ў калгас не хацеў ісці, тых раскулачвалі— вывозілі некуды.

Памятаю і я, як «заганялі» ў калгас у Вілейскім раёне ў 1949—50 гадах. Калі ў нашу вёску Касічы прыязджалі агітатары, то ўсе мужчыны ўцякалі ў лес. А хто не пайшоў у калгас, на таго наклалі вялікія падаткі: грашыма, збожжам, сенам, малаком, яйкамі, мясам. Падаткі за яблыні, грушы, за пчолы (калі хто меў іх). Падатак на маласямейных. Заём (пазыку) назначалі адвольна. Існавалі і амаль прыгонныя павіннасці: улетку — дарожная («шарварка»), узімку — лясная (вываз і нарыхтоўка бярвенняў). Зямлю аднаасобнікам адвялі самую горшую — пясчаныя і забалочаныя няўдобіцы. Падаткі з кожным годам павялічваліся. Зразумела, усё выканаць нельга было, і тады судзілі або без суда раскулачвалі і вывозілі ў Сібір, Комі, Карэлію. Уцячы ў горад магчымасці не было — пашпарт не выдавалі...

Не было, відаць, кутка ў краіне, куды б не запусцілі свае жудасныя шчупальцы сталінскія беззаконні.

На маёй памяці шмат сустрэч з тымі, хто прайшоў праз жахлівыя гады рэпрэсій, хто быў іх ахвярай і хто здзяйсняў іх...

Я быў студэнтам вячэрняга аддзялення Ноўгарадскага пэдінстытута, выкладалі ў нас тады гісторык Свірыдаў і філолаг Красцінская. Яны — ленінградцы, працавалі ў ленінградскіх ВНУ. У гады сталінскіх рэпрэсій былі абгавораны нядобразычліўцамі і асуджаны «тройкай», а потым вывезены ў Сібір. Пасля рэабілітацыі ў канцы 50-х гадоў яны прыехалі ў Ленінград, але іх месцы былі заняты. Давялося ім уладкоўвацца ў Ноўгарадзе. Мы іх паважалі і за тое, што перажылі, і за тое, што яны чула ставіліся да студэнтаў, вельмі добра ведалі свой прадмет. Лічылі за гонар праводзіць Свірыдава дадому позна вечарам. Прасілі яго расказаць, за што, дзе і як адбываў ён пакаранне. З тых яго апавяданняў асабліва ўрэзалася ў памяць адно.

«Прывезлі ў лагер новага «зэка», зняволенага, — расказваў Свірыдаў. — У адну з начэй ён у сне раптам пачаў «допыт»:

— Ты будзеш прызнавацца, падла? Прызнавайся, гадзіна!..

Мы зразумелі — трапіў да нас такі ж следчы, які выбіваў «прызнанне» з нашага брата. Навялі даведкі, па якім артыкуле праходзіць. Не памыліліся: былы следчы. У лагеры прабыў ён нядоўга. Аднойчы сядзелі ўсе каля штабеля бярвенняў, зверху скацілася бервяно і трэба ж такое: ударыла следчага па галаве, а больш нікога не зачапіла. Дзіўна, што само звалілася. Аформілі, як няшчасны выпадак...»

Свірыдаў быў асуджаны «тройкай», а праз пяць гадоў выклікалі яго жонку ў пракуратуру і сказалі, каб клала ключы, дзе і раней: маўляў, хутка муж вернецца. Але чакала яна дарэмна. Свірыдава пакінулі ў Сібіры на вольным пасяленні, дакладней, у высылцы. Выратаваў яго толькі XX з'езд КПСС.

Пасля адной такой размовы са Свірыдавым я заступіў на начное дзяжурства са старшынёй міліцыі Ягоравым (часова там, у Ноўгарадзе, я працаваў у міліцыі). Чалавек ён быў ліберальны, даступны, і я папрасіў яго расказаць аб сваім удзеле ў рэпрэсіях, аб тым страшным часе. Я ведаў, што ў яго стаж службы ў НКУС вялікі, ведаў і тое, што ён некалькі гадоў быў канваірам у лагеры. Спачатку ён адмовіўся, сказаў, што нічога асаблівага не было. Але пасля расказаў:

— Справа, канечне, канула ў лету. Але мне не дае спакою сумленне. Фактычна я зрабіў злачынства, хоць і не па сваёй волі. Вайна ёсць вайна. Фронт набліжаўся. Было вырашана былых афіцэраў буржуазнай Латвіі (іх забралі ў 1940 г.) адправіць далей на Поўнач, у адзін з лагераў. Афіцэраў канвайравалі пешшу. Пасля канвой узмацнілі кулямётамі. Паступіла распараджэнне: «Усіх расстраляць!» Расстрэльвалі з кулямётаў і аўтаматаў. Ніхто не ўратаваўся. Месца адкрытае

Паважаны «ЛіМ»!

З вялікім хваляваннем прачытаў артыкул «Курапаты — дарога смерці». Рашыў адгукнуцца вершам. Спадзяюся, ён зацікавіць рэдакцыю.

Р. ПАСТУХОЎ,
электраманцёр Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі.

**Рудольф ПАСТУХОЎ**

## КУРАПАТЫ

Ні Бухенвальд тут,
Ні Хатынь,
А — Курапаты.
Замшэлы лес —
Куды ні кінь,
Ды скрып лапаты.
І сэрца стук
На кожны гук
Смяротна раніць,
Жалобна б'е
Паклон зямлі
Людская памяць.
Галлё трашчыць —
Ужо вядуць
Пад крык зацяты.
Птушыны крык
Не змоўкне тут —
Тут Курапаты.
Ніхто не змог
Адсюль уцячы.
Тут — цемра суму.
Усяго сто крокаў
Уначы.
А колькі думак?..
Тут мора выліта крыві.
Тут — сосны
Ў неба.
Пясок чырвоны,
Ржавы жвір,
Тут — быль і небыль.
Куды ні кінешся —
Правал.
Вадаварот пясчаны.
Час расстраляны напавал,
І кліч адчайны.

## Рэха гастрольнага лета

# Патрабуюцца перамены

**Прайшло шэсць гадоў — і Свярдлоўскі тэатр драмы ізноў завітаў у Мінск на гастролі. Мы прыходзім у глядзельную залу ўжо як добрыя знаёмыя: убачыўшы здабыткі — радуемся, адзначаючы страты — засмучаемся...**

Шэсць гадоў назад Свярдлоўскаму тэатру ўпікалі «крэнам» у бок пацяшальнасці: маўляў, афіша выглядае быццам і годна, але ж класіка ці сур'ёзная сучасная п'еса іграюцца адзін-два разы, а ўсю астатнюю «тэрыторыю» захапілі славутыя «Восем закаханых жанчын» і падобнае да іх...

Спосаб складання сённяшняй афішы ўральцаў амаль не змяніўся. Нікога не ўводзіць у зман прысутнасць у ёй горкаўскіх «Апошніх» — ажно два разы ідзе гэты спектакль! Добра зладжаная імпартная п'еса прадстаўлена шчодра і ўсебакова, рознымі краінамі і кантынентамі, побач з ёю — п'еса айчынная, арыгінальная, сучасная, але неяк быццам з «другога эшалону», з тых, што ставяцца ўсюды, ды, так бы мовіць, не з «магістральных»...

**Мяркую, заўвага Д. С. Ліхачова наконт таго, што гаспадарчы разлік супрацьпаказаны мастацтву, літаратуры і асвеце, — бясспрэчная. Калі задужа пачынаюць клапаціцца аб прыбытках, тады непазбежна губляюць маральныя крытэрыі, тым больш, што немагчыма дакладна правесці мяжу паміж «проста» клапаціцца ці «звыш меры»... І тады хваля за хваляй накатваюць на сцэну «верняки» ці паспешліва і не надта ўмела зробленыя «водгукі»... А недасканалая драматургія наогул псуе тонкае акцёрскае рэле, і гэта абавязкова ў свой час адгукнецца...**

Здаецца, нешта нядобрае адбылося і з горкаўскімі «Апошнімі», якія паставіў В. Пашнін (сцэнаграфія А. Кузняцова). Свярдлоўскі тэатр традыцыйна моцны ў класіцы — як тут не прыгадаць мастацкую аднадумнасць і прафесійную свабоду «Плодов просвещения» ў пастаноўцы А. Сакалова на былых гастролях. Таму і ад «Апошніх» мы чакалі шмат.

Калі ўспыхнулі вулічныя ліхтары ў, здаецца, вільготнай цемры і стаў бачны дом Каламійцавых у пыльных шэрых драпіроўках, калі мы ўбачылі дзесьці наверсе бяссоннае вакно, дзе ні днём, ні ноччу не гасне драпежнае святло,— сэрца скаланулася. Адразу ўзнікла атмасфера дома, дзе немагчыма жыць, няма чым дыхаць, дзе падслухванне, падман, рабаванне — звычайнасць. Г. Умпелева — Соф'я, А. Пятроў — Іван стварылі вакол сябе поле праўды існавання і праўды мастацкай... Мы адчулі: штосьці прыцягвала калісьці гэтых розных людзей. Мінулае звязвае іх моцна — хоць яны сталі зусім чужымі. Упершыню ў «Апошніх» адчулася гэтая тэма: яны ж калісьці былі маладыя, кахалі — і колькі агіднага з'явілася ў іх жыцці! Жывы прамень з былога асвятляе сённяшні дзень — і тым больш жорстка безвыходным бачыцца ён.

П'еса Горкага сёння злабадзённая: Каламійцаў — паліцмайстар па прызванні, добраахвотны кат, гвалтоўнік па прыродзе — з жахам і агідай мы спасцігаем сацыяльную і псіхалагічную прыроду гэтага антычалавечага феномена. Баязлівая, аморфная натура, тэрарызаваная ва ўласным доме, пакаёвая кветка, прыгожая і кволая, — Г. Умпелева робіць відавочным хваравіты, гібельны працэс, які адбываецца ў Соф'і: яна яшчэ магла жыць, лічачы сябе ахвярай, перажываючы свой жаночы «грэх», але не зможа, калі жорсткае святло бязлітасна пральецца на руіны сям'і, на страчаных, загубленых дзяцей... І яе трагічную віну — не зберагла, не выцягнула дзяцей, скарылася сама і пакінула іх дыхаць заразным паветрам. Марнае, нікчэмнае, у выніку нават злачыннае жыццё; маці, якая не здолела абараніць нікога. Яе пакаянне дзяцей не кранае: ім агідна, смешна або крыўдна, *але ні адзін з іх не ўзрушаны* — страшэнны вынік...

Г. Умпелева, А. Пятроў у спектаклі існуюць «паводле Горкага» — традыцыйна, грунтоўна, дакладна, але мысляць і адчуваюць сугучна сённяшняму дню, і ў гэтым моцны бок спектакля. Але п'еса ўсё ж аб «апошніх» — аб тых, хто яшчэ ні ў чым не вінаваты, якім — жыць або не жыць... Пра тых, хто запытвае нас, патрабуючы сумленнасць. Апякаючае пытанне на ўсе часы, сёння яно апякае нас асабліва, бо грамадствам накоплена безліч пытанняў, на якія так неабходна адказаць маладым і сабе. Аднак гэтая тэма (дзеля яе варта было ставіць спектакль) патанае ў воклічах і мітусні, і асобныя «моманты ісціны» не ратуюць становішча. Стылістычны разнабой, парушэнне суладдзя традыцыйнай для свердлаўчан ансамблевасці перашкаджаюць цэльнасці «Апошніх», без якой яны бяссільныя.

**Відаць, усё ж пытанне, як жыць маладым у сённяшнім свеце, дзе так доўга выдавалі ману за праўду, балюча кранае і тэатр. Таму ставіцца розаўскі «Вепручок», п'еса, якая павінна была шмат гадоў назад прыйсці да нас, але была заціснута крыгамі застою. А сёння... Сёння, можа быць, яе час прайшоў. Прынамсі, пастаноўка В. Анісімава займае ўвагу амаль што адным толькі сюжэтам. «Курортнае» аздабленне зрабілася зручным тэатральным фонам, а не тэатральнай метафарай мізэрнага «свята жыцця». Не вельмі далёка трэба было ісці, каб адшукаць жыццёвыя абгрунтаванні паводзін персанажаў — у Розава ўсё бывае сказана, растлумачана, усё ляжыць на паверхні... для павярхоўнага погляду. І ўсё мае і глыбінны, і ўзнёслы сэнс, які ў спектаклі найбольш дакладна адчулі малады А. Смалякоў — Аляксей і Ю. Васільеў — Юраша. Аднак, нягледзячы на іх намаганні, спектакль аказаўся газетным фельетонам на сучасную тэму пра выкрытых ліхаімцаў. Страшэнны ж сэнс п'есы пра грахі бацькоў, узваленыя імі на плечы дзяцей, — чакае іншага ўвасаблення, але выклікае павагу жаданне тэатра, церпячы відавочныя страты, усё ж брацца за балючыя тэмы. Не хочацца думаць, што ім кіруюць меркаванні больш празаічныя: крануць, як кажуць, «смажаныя» факты. Бо такія меркаванні могуць быць у аднаго - двух - трох чалавек, п'есы ж для пастаноўкі прымае калектыў. Наўрад ці ўхваліў бы ён зусім недасканалую п'есу В. Раманава і В. Кузняцова «Судны дзень», калі б не знайшоў у ёй нешта такое... Барацьбу ідэй, адметны характар, адметную сітуацыю. Не для жыцця адметную, для сцэны: існаванне нейкай усемагутнай мясцовай «мафіі». Паставіў п'есу артыст тэатра В. Марчанка — і, трэба сказаць, спектакль «чапляе» — тымі вышэйпамянёнымі якасцямі, якія ўвасобілі В. Пісараў — Смірноў, В. Шатрова — Зубарава. Аднак балючая тэма — падманутыя спадзяванні маладога чалавека застаюцца дзесьці на перыферыі. Да таго ні аўтары, ні рэжысёры не здолелі адмовіцца ад банальнасцей, ад набору «ажыўляльных» дэталяў, якія прымнажаюцца па ходзе дзеяння, пагражаючы паглынуць усё каштоўнае ў спектаклі. На шчасце, не паспяваюць: спектакль канчаецца нечаканай перамогаю зла — і ў апошняй «нямой сцэне», як ні дзіўна, надзеяй на перамогу дабра.**

А вось прафесійны рэжысёр — А. Сазонтаў, прыняўшы на павер пабудову вядомага аўтара В. Гуркіна, паспрабаваў адкрыць даўно адкрытае — і атрымаўся спектакль «Ішоў па лесе мядзведзь...» Нельга сказаць, што ён наскрозь другасны: у ім добра напісаная драматургам і сыграная Н. Шаровай роля бабулі Ксені. Але што зробіш, не ратуе яна спектакль ад пасрэднасці, як не ратуе і заяўка на яшчэ адну сапраўдную драму — лёс хлопчыка Віцькі (Р. Бакіраў). Заклік да міласэрнасці ў спектаклі гучыць неяк няшчыра. Можа, таму, што не варта было выкрываць мяшчанства мяшчанскімі ж сродкамі?

Скрануліся ўбакі дэкарацыі, як знак таго, што зрушыўся побыт, убок адышла мітусня, дробныя страсці, хваляванні, і над героямі — Сабежнікавым і «нічыйнай бабуляй» Ксеняй расхінулася сіняе неба, а ў ім

# Як дапамагчы чалавеку

**Тэатры, падобныя да Ленінградскага маладзёжнага на Фантанцы, на жаль, наведваюць Мінск толькі зрэдчас. Стрыманасць ленінградцаў на сцэне адразу прывабіла гледачоў-прыхільнікаў; нестракатасць фарбаў, нярэзкасць гукаў, вытанчанасць, далікатнасць, іранічнасць, высокая выканаўчая культура калектыву найперш засведчылі інтэлігентнасць гэтага тэатра.**

...Людзі адпачываюць ва ўсе часы. Забавы, пародыі, жарты, кепікі, песні, скокі са спектакля ленінградцаў «Гучала музыка ў садзе» належаць пачатку стагоддзя. Спектакль «Якая музыка была, якая музыка гучала», своеасаблівы працяг першага, пераносіць нас у 30-40-ыя гады. Са спектакляў-жартаў, спектакляў - забаў настолькі пераканаўча вынікнуў закулісны — сацыяльны фон і дух тых непадобных часоў, што мяне наведалі думкі, зусім забавамі не прадугледжаныя. Грымне рэвалюцыя, і куды паткнецца ад свайго раяля вытанчаны малойца (І. Благадэр, дарэчы, педагог тэатра па вакале), куды знясе вабных паненак «ад канкану», «ракавую» выканальніцу «танга - наркотыка» (В. Меліхава), факіра «пад іншаземца» з нязменным «пазялюйста» (В. Кухарэшын), элегантную спявачку рамансаў (Н. Дзмітрыева)? Кагосьці з іх можна будзе ўгледзець у спектаклі «Якая музыка была...», змяніўшыхся з часам і грамадствам. Мо пасля чарговага танга сканае на рэпетыцыі танцорка ад блакаднай дыстрафіі, а пасля смешных куплетаў снарад пацэліць проста ў клоўнаў... Прызнаюся, спачатку палічыла, што спектаклю моцна бракуе яркага канцэртнага канферансу, але зараз мушу настойваць: вырашэнне рэжысёра Я. Падве ці не самае правільнае з усіх магчымых. Ленінградцы не нагадваюць штораз пра даваенныя і ваенныя трагедыі свайго горада, але вытрымкі з артыкулаў, загадаў і пастаноў па мастацтве 30—40-х гадоў па-сапраўднаму знітоўваюць відовішчы, гучаць вычарпальна, хоць і жорстка, а часам і жахліва.

Увогуле спектаклі галоўнага рэжысёра тэатра Яфіма Падве вабяць дакладнасцю дэталяў і характараў, стрыманасцю пастановачных прыёмаў і эфектаў, ансамблевасцю, акцёрскай бездакорнасцю ў выкананні рэжысёрскіх задач.

«Пяць кутоў» С. Какоўкіна — «фірменна» ленінградскі спектакль — сучасная драма (але без злоўжывання меладраматызмам) таленавітай жанчыны, адлучанай ад працы на сцэне, ад маленькіх радасцей сям'і ці кахання. Саліруе і задае тон партнёрам у ролі Лялі Н. Дзмітрыева (захапляе як балетны гарт драматычнай актрысы, так і дасціпнасць яе ўмоўных танцавальных нумароў, — іх прыдумала балетмайстар Н. Волкава). Уражвае нязмушаны акцёрскі ансамбль: крыху знерваваны, закамплексаваны, хоць не без высакароднасці але і нахабства Росцік В. Кухарэшына; заваёўніца гарадскога жыцця і ленінградскай жылплошчы Галька-малярка В. Меліхавай; былы вайсковец-марак Зыбкін А. Сліўнікава — з невайсковаю спагадаю да людзей і неверагодным каханнем да Лялі; Аўтар А. Чабана — увесь ці то ў мроях, ці то ва ўспамінах... Пра што спектакль? Я думаю, пра непаўторнасць кожнага жыцця і лёсу, а таксама пра тое, як іхнім валадарам — гаспадарам трэба шанаваць і шкадаваць адно аднаго.

Гэтая старая як свет высноўва «пакрочыць» па дарозе на Літл-Дот (спектакль «Дарога на Літл-Дот» паводле аповесці Д. Стэйнбека «Пра мышэй і людзей» у пастаноўцы Я. Падве) разам з Джорджам А. Чабана і Лені А. Сліўнікава, сезоннымі рабочымі з ранча. У Джорджа толькі і ёсць, што Лені, а ў Лені — нікога, акрамя Джорджа. Затое на абодвух маецца вялікая (амерыканская?) мара: ашчадзіць грошай і набыць маленькую сялібку, каб гадаваць там авечак і трусоў (гэта Лені страшэнна любіць песціць усё мяккае і пухнатае). Асілак Лені быццам самою прыродаю асуджаны на згібенне. Нешта парушана ў яго псіхафізічных адчуваннях - успрыманнях, ён зусім не разумее сваёй звышнатуральнай сілы і не ў стане самастойна кантраляваць яе.

А. Сліўнікаў стварае самы адметны вобраз спектакля, пры гэтым нідзе не перабольшвае, не перацiскае з ненармальнасцямі свайго героя. Наш чалавечы глядацкі страх перад неўтаймаванай сілай змешваецца са шчымлівым спачуваннем ёй — сляпой, наіўнай, даверлівай. Самая першая і простая думка, на якую «правакуе» акцёр, — як і чым дапамагчы чалавеку? Пасля ненаўмыснага забойства Джордж (абаяльная работа А. Чабана, хоць воляю аўтара аповесці і адсунутая крыху ўбок) змог дапамагчы Лені адзіным стрэлам. Сам стрэліў, каб не адбыўся над сябрам-гаротнікам суд Лінча.

Акцёрскі ансамбль у спектаклі (да двух названых акцёраў далучыліся В. Гушчын, С. Гаўліч, В. Шубін, А. Анісімаў) быццам увасабляе думку Брука, што мужчынам пасуе быць трагікамі. Не, ён не цісне слёзы з гледачоў, але вымагае спачування — асуджаныя на цяжкую долю працаўнікі. Нават Бландзін С. Рускіна, своеасаблівы антыпод Лені, які пакутуе ад уласнай ваяўнічай дурноты-рэўнасці, — нават Бландзін у фінале страціць сваю агіднасць і верне залу да думкі — як дапамагчы чалавеку? Вядома, адназначнага адказу накшталт: змяніць нешта ў грамадстве, дзяржаўным ладзе ды ў сусвеце спектакль і даць не можа. Мяняць нешта трэба ў нас саміх. Усё проста і... так недасягальна!

...Мяняць нешта ў сабе — так проста? Так недасягальна? Пра гэта зараз спрачаюцца, пішуць.

У наступным спектаклі Я. Падве, «Паляванне на качак» А. Вампілава, гранічна шчыра і з поўнай адказнасцю прадстаўлены механізм змен у свядомасці асобы. Зілаў тут— адзін з лепшых, першых і мацнейшых людзей часу. Але ён ад грамадства зусім не вольны, а часам і задужа залежны — ад таго, якое ўжо названа «грамадствам маны і часіны застою». Зілаў, так бы мовіць, яго натуральны прадукт, узгадаваны і выхаваны такім абаяльным... недачалавекам... У яго



«Дарога на Літл-Дот» паводле Д. Стэйнбека. А. Сліўнікаў (Лені).

*Старонкі ўспамінаў*

**Уладзімір МЕХАЎ**

# НА АДНОЙ НАРАДЗЕ

ДЗЕНЬ ПРЫ ДНІ я праходжу каля плошчы Перамогі паўз дом, на фасадзе якога мемарыяльная дошка з імем Яўгена Карлавіча Цікоцкага. У гэтым і на цяперашняе ўспрыманне прыгожым, а падчас першых пасляваенных дзесяцігоддзяў адным з самых шыкоўных у Мінску жылых гмахаў кампазітар давякоўваў.

Будзем шчырыя, няшмат асталося людзей, у памяці якіх гэта мармуровая дошка нешта ўзварушвае. У эфіры і ў канцэртных залах напісанае Цікоцкім гучыць цяпер нячаста. Накідаць жа абрыс самой адметнай постаці шаноўнага маэстра сёння здатны і зусім мала хто: пад пенсійны ўзрост падбіраюцца нават тыя, хто з белагаловым, пышнавусым на схіле гадоў Цікоцкім пачціва вітаўся ў чырвоным гальштуку.

Вось і мне ён зараз выступае як з туману, са смугі даўнасці. Хоць не так і рэдка даводзілася колісь яго бачыць.

Па-першае, адразу пасля вайны я жыў пяць гадоў у хаціне па-над Свіслаччу, да якой сцяна да сцяны прымыкала камяніца-пагарэлішча, адбудаваная тады ж пад жыллё творцам музыкі. Алімпійцы, імёны якіх я з малалецтва чуў па радыё і чытаў у афішах, пачалі звыклымі буднымі сілуэтамі мільгаць перад аконцам нашай нізенькай хаціны. Аставаліся яны для мяне тым не менш алімпійцамі — па маладосці адчуваў сябе ніякавата, здароўкаючыся раніцай з кім-небудзь з іх, скажам, каля сметніка. Што ж да Цікоцкага, то цікаваў за ім з асаблівым піетэтам: надта ж многа ды ў самай высокай танальнасці пісалася і гаварылася пра яго «Міхася Падгорнага» ў перадваенныя гады, пра яго «Алесю» ў першыя пасляваенныя. Ён і з боханам хлеба пад пахай бачыўся мне асобай, пазначанай мецінай вышэйшасці, жывым класікам.

Па-другое, я вучыўся ва ўніверсітэце ў адной групе з яго сынам і, здаралася, па студэнцкіх клопатах зазіраў да аднакашніка дамоў. Дзверы ў пакойчык, аддадзены сям'ёй пад кабінецік Яўгену Карлавічу, бывалі часцяком адчыненыя, я нясмела кідаў туды вокам. З аблічча і манерамі падобны да вядомага ўсім ламанчскага гідальга, героя несмяротнага рамана Сервантэса,— ва ўсякім разе, так мне, кніжніку, здавалася,— стваральнік слынных опер сядзеў звычайна ў хатняй апранашцы за сталом, заваленым гарой газет. Не выключаю, праўда, што гэта намалявалася майму ўяўленню пазней, быццам адно такім — пры гары газет — у свае заходы яго бачыў. Мажліва, тое паўплывала, што я даведаўся хутка пра мілае, трохі дзівацкае захапленне чалавека, да якога ставіўся з трапяткой павагай. Цікоцкі збіраў, калекцыяніраваў газеты. Не ведаю, якую мэту перад сабой у гэтым занятку ён ставіў, якой шкалой каштоўнасцей кіраваўся, але памятаю, што некалькі разоў і сам прывозіў яму нешта для яго дзівотнага збору, перадаваў цераз сына.

Па-трэцяе, лёс у журналісцкай прафесіі склаўся ў мяне так, што ў полі маёй службовай цікавасці заўсёды знаходзіліся навіны і турботы, як гаворыцца, культурнага фронту. Пачаткоўцам прыносіў у рэдакцыю дваццаціэрадковыя заметкі пра выстаўленае на бібліятэчных стэндах, ці пра сказанае вядомым артыстам на мітынгу з прычыны падпіскі на дзяржаўную пазыку. Пасталеўшы, выбіўся на больш сур'ёзнае і важкае — ужо і сам у нейкай ступені вырашаў, як будзе адгукацца газета, дзе працаваў, на пампезную экранную эпапею, што абвешчана дасягненнем кінематографа, а круціцца пры пустых залах, альбо на пісьмо пра канфлікт паміж дырыжорам і аркестрантамі ў оперным тэатры. Даводзілася бываць на ўсялякіх нарадах па вызначэнню мастацкай палітыкі. Там таксама назіраў іншым разам, як пасопвае і дрэмле, слухаючы шматслоўных прамоўцаў, Цікоцкі,— ён мусіў траціць час на марную седаніну як старшыня кампазітарскага саюза.

З тых сустрэч на такіх нарадах у памяці асабліва адна.

Ужо не дужа памятаю, што тады з'явілася сігналам для пачатку чарговага наступу на лёгкую музыку. І ці была то кампанія ўсесаюзнага маштабу, або наша мясцовая. Здаецца, мясцовая. Здаецца, адзін ідэалагічны шчырун сярэдняга, нават ніжэйшага за сярэдні, чыноўнага рангу, учуўшы ў атмасферы спрыяльныя флюіды, вырашыў, што надышла часіна і яму сябе паказаць. Нашрайбаваў на належны адрас цыдуліну, што ў Мінску страчана пільнасць — на маладзёжных вечарах, на танцпляцоўках, а тым больш у рэстаранах гучыць яўна не тое, што павінна гучаць. І вось сядзім, радзімся, як трывожнае становішча выпраўляць.

Сігнальшчык, вядома, і сам тут — малады, упэўнены, плакатнага тыпажу. З тых, што раней ці пазней, а сваё абавязкова бяруць — на месца каля карыта ўсоўваюцца. Усе мы ведаем, хоць ніхто нам пра гэта не сказаў, што абавязаны малапрыемнай гаварыльняй яму. І паглядаем на яго не надта каб з вялікай сімпатыяй. Ідуць пяцідзесятыя хрушчоўскія гады, заўзятасць у пошуках ідэйнай шкоды ўжо не зусім па часе. Настрой вакол сябе ён адчувае. Відаць, яшчэ і таму, узяўшы слова, дужа імпэтна стараецца давесці, якое важнае пытанне ўзняў. Сябе ж тэмпературай прамовы распаляючы.

Жудасную намаляваў карціну, найнебяспечны для нашай маралі падтэкст адкрыў у большасці песенек і танцавальных мелодый, якія бяздумна прапанаваліся клубным залам і паркавым пляцоўкам слаба падрыхтаванымі культурнікамі. Нехта з кіраўнічых па той лініі аж не вытрываў, у роспачы крыкнуў:

— То складзіце і дайце спіс таго, што не шкоднае!

Не таго, што ш к о д н а е, а таго, што н е ш к о д н а е — бездакорнае ўявілася небараку няўлоўным у акіяне заганнага.

Гаспадар кабінета, у якім сабрана была нарада, насцярожана звёў над шырокім пераноссем бровы. Ружовенькі, таўсмаценькі, ён выставіў уперад далонькі ў знак нязгоды:

— Гэта вы ўжо, калі ласка, сваю работу на каго-небудзь не перакладайце!..

Гаспадар кабінета — назавём яго на старадаўні раманны лад N. N. — быў з нярэдкага тыпу адказных персон, якія заўсёды ведаюць, што не дазволена, але ніколі — што дазволена. І на ўсякі выпадак не дазваляюць і дазволенага. На памяці маёй ён сядзеў на розных пасадах, але паўсюль заставаўся аднолькавы: вырашыць з ім хоць што было немагчыма. Па справах выпадала да яго заходзіць. Кожны раз паўтаралася тое самае. Прачытае пададзеную паперу, ці выслухае, з чым чалавек прыйшоў, і перш-наперш сярдзіта зморшчыцца:

— А да П. звярталіся? А з І. узгаднілі?

Адказваеш, што быў і ў названых, і ў трэцяга, чацвёртага, пятага — усе не пярэчаць, патрабуецца толькі подпіс яго, N. N. Перачытае паперыну, уздыхне, возьме ручку — ну, думаеш, мядзведзь у лесе здох! — але раптам перасмыкнецца, адсуне паперу да стосіка іншых, буркне ўжо нават са злосцю:

— Няхай паляжыць. Падумаем.

І ляжаць гэтай паперы да другога прышэсця...

Тут з раўнавагі выведзены быў N. N., бадай, дзвюма акалічнасцямі. Тым, па-першае, што шлях выкаранення музычнай безыдэйшчыны ўбачыўся перапалоханаму культдзеячу такім простым — складзіце пералік некрамольнага, і праблемы няма. Простага ў падобным N. N. не любіў. Простым, ён лічыў, прыніжалася значнасць. Адно, калі ў пастанову заносіцца няпэўнае, але важкае «звярнуць увагу», «запатрабаваць узмацнення», «папярэдзіць аб адказнасці»,— і іншае, калі прымітыўна запісваецца канкрэтнае. А, па-другое, ён падхапіўся, відаць, таму, што роспачнае «дайце спіс» было кінута як бы і яму. Яму таксама адрасавалася недамоўленае: калі настолькі вы разумныя, адразу чуеце звычайным вушам нячутнае, то і вазьміце на сябе клопат, аддзяліце здаровае ад згубнага. Браць жа што на сябе, ужо сказана, было не ў правілах N. N. Даслалі б яму меркаванні зверху — з імёнамі і назвамі, усё роўна, пажаданымі ці непажаданымі — ён быў бы на кані. На кінутую рэпліку, на тое, што было ў ёй недаказана, выставіў бы далонькі ў знак інакшы. Маўляў, можам і спіс, ды кепска, што без спісу, без нас вы бездапаможныя. Але вышэйшых меркаванняў атрымана не было, а назваць што на меркаванне ўласнае, то можна не патрапіць, укляпацца: запіс якога ансамбля валасацікаў параіш выкінуць, а назаўтра валасацікі па тэлевізары ва ўрадавым канцэрце... Не, даражэнькія, гатовенькага не дачакаецеся, самім належыць мець чуццё! А N. N., калі яму даручаць, наладзіць праверачку, адпавядае яно ў вас, ці не...

Як шукаючы спачування, павярнуўся з пакрыўджаным тварам да Цікоцкага — той сядзеў ад N. N. паблізу. Пачаў гаварыць нешта Яўгену Карлавічу аднаму. N. N. часта на працягу нарады вылучаў Цікоцкага ўвагай — асоба з аўтарытэтам, народны артыст, не жартачкі. Прагаворваў сваё напаўголасу, наставіўшы перад ротам далонькі рупарам — не для ўсіх, маўляў, даверна толькі вам,— а Цікоцкі ў адказ кожным разам на ўвесь кабінет:

—Мгмбмгм...

То з адценнем згоды, то нязгоды, то сумнення.

Я слухаў гэтае ўніклівае мурканне, глядзеў, як кампазітарскі галава, пажоўваючы губамі, касавурыцца на гадзіннік, і ў думках круцілася невясёлае. Працаваў я тады ў маладзёжнай газеце, «на плаву», як гаворыцца, быў лічаныя гады, а і то з колькім прыкрым паспеў сутыкнуцца. Чуў, як ндробны камсамольскі чын пляжыў у дакладзе піянерскае выданне за «сузіральны вершык нейкага Тушнова» — гэта пра паэзію найшчырай Веранікі Тушновай, сапраўдную, высокую. Яшчэ адным камсамольскім распарадчыкам быў выкліканы на прачуханец сам — за тое, што ў газеце, дзе працаваў, з'явілася станоўчая рэцэнзія на «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага» Янкі Маўра. Малады наменклатурны таварыш пісаў дысертацыю па матэрыялізму і яму скрозь бачыліся дыверсіі ідэалізму—зглედзеў іх і ў Маўравай аповесці. На рознае такое я балюча рэагаваў, перажываў. А што ж было прыхопленае мною ў параўнанні з бачаным і чутым за доўгае жыццё Цікоцкім! Чуйнаму, інтэлігентнаму, адукаванаму, як яму колісь было маўчаць пры ганьбаванні Шастаковіча за «Кацярыну Ізмайлаву»? Ці пазней, пасля грознай пастановы па оперы Мурадэлі, катавацца на пасяджэннях, дзе, як шкадлівых недаросткаў, ушчувалі Пракоф'ева, Шапорына, Мяскоўскага — музыкантаў, якіх ён так шанаваў? Ці ў бяссіллі хаваць вочы ад калег, якіх залічылі ў касмапаліты? Ды нават проста глуміць дарагія гадзіны на гэткіх вось бяздарных, як тое, дзе сустрэліся, пераліваннях з пустога ў парожняе!..

Ах, зборышчы рознага калібру, дзе недасведчаныя вучаць дасведчаных,— ці надыдзе ім калі-небудзь канец! Невыкараняльныя, тупа-агрэсіўныя, як яны ўсім абрыдлі! Як адымаюць сілы ў людзей і цяпер!..

Тым часам на нарадзе, пра якую расказваю, ахвочыя выступіць, дзякаваць богу, выгаварылі. N. N. задаволена паляпаў далонькамі па стале — сур'ёзная, правільная размова адбылася пад ягоным старшынствам! Засталося падсумаваць тое, што прагучала, і можна дакладваць каму след, якое праведзена плённае мерапрыемства.

З некароткай заключнай прамовы яго помню адно. Як ён упікнуў газетчыкаў, што мала, кепска, непрафесійна мы пішам па тэме, якая абмяркоўвалася. Вынікі і маем. А кепска чаму — бо прафаны ў музыцы! Ён, N. N., быў нядаўна ў Брэсце. Зазірнуў там на агляд самадзейнасці. Поруч з ім прысеў у зале карэспандэнт. З вышэйшай, між іншым, адукацыяй — N. N. потым пацікавіўся. Дык пачаў карэспандэнт запісваць у блакнот, і раптам пытае ў N. N.; «Не скажаце, гэты інструмент на сцэне — піяніна ці раяль?» Во да чаго некаторыя журналісты дакаціліся — сорам і ганьба!..

Чалавекі тры ў кабінеце засмяяліся. Цікоцкі засоп і нешта замармытаў — адменнасцю дыкцыі ён не вызначаўся. N. N. выставіў далонькі ўперад, заклікаючы да ўвагі, узняў угору палец:

— Самы ж анекдот, таварышы, у іншым. На сцэне стаяла не піяніна, не раяль — фар-тэ-пі-я-на! — Ён для эфекту вымавіў слова па складах. І, ставячы невядомага нам невука да ганебнага слупа, паўтарыў: — Не піяніна, не раяль — фартэпіяна!

На хвіліну ў пакоі стала ціхутка і зябка. Ці можа на секунды, якія здаліся доўгай хвілінай. Потым грымнуў рогат — з'едліва-радасны, з усхліпамі, са стогнамі. У Цікоцкага заторгаліся плечы. Ён смяяўся бязгучна і неяк дзіўна — з абсалютна сур'ёзным тварам. Толькі вырывалася чэраўнае:

— Гум!.. Гум!.. М-гу!.. Ум!.. Гум!..

Але ў круглых вачах пад акулярамі цямнелася журба.

А ружовенькі N. N. стаяў шчаслівы. Вось як развесяліў аўдыторыю. Вось які ўдалы прыгадаў прыклад. Сапраўды, якога ж прафана сустрэў у Брэсце. Называецца журналіст — ай-яй-яй...

---

*Нашы публікацыі*

**Аляксандр ЧАРВЯКОЎ:**

## «САВЕЦКІ ЧЫНОЎНІК ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ І ШАНАВАЦЬ...»

Пра незайздросны стан беларускай мовы, валюнтарыстычна-бюракратычныя перакосы ў моўнай палітыцы на Беларусі гаворана апошнім часам нямала. Сёе-тое зроблена і робіцца па выпраўленні дапушчаных памылак, дзеля нармалізацыі грамадскіх умоў развіцця роднай мовы беларусаў. Але ці набывае яна адпаведныя правы ў афіцыйных колах, у дзяржаўных установах? Ці прабіваецца ў службовыя кабінеты? Адказ на гэтыя пытанні можа і павінен прагучаць сцвярджальна.

На апошнім Пленуме ЦК КПСС, які адбыўся 29 ліпеня г. г., Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў сказаў: «Не прыходзіцца гаварыць пра тое, якімі ўважлівымі мы абавязаны быць да развіцця роднай мовы, нацыянальных культур, да аховы прыроды, гістарычных помнікаў, да ўсяго таго, што вызначае самабытнасць кожнай нацыі і народнасці, яе непаўторны ўклад у агульную скарбніцу савецкай культуры, для якой характэрны шматграннасць і шматколернасць нацыянальных фарбаў... Улічваючы асаблівую вастрыню праблем моўнай палітыкі, відаць, варта было б падрыхтаваць і вынесці на шырокае абмеркаванне праект саюзнага Закона аб свабодным развіцці і раўнапраўным выкарыстанні моў народаў СССР».

Такая пастаноўка пытання ўсяляе аптымізм. Да такога ж, аптымістычнага, адказу на пытанне заахвочвае і гістарычны вопыт нацыянальна - моўнага будаўніцтва ў 20-я гады, вядомы як беларусізацыя. Заахвочвае асабісты прыклад камуніста-ленінца, Усебеларускага старасты А. Чарвякова, чыё выступленне ў газеце «Савецкая Беларусь» (нумар за 23 чэрвеня 1923 г.) прапануем, нязначна скарочаным, увазе чытачоў.

**«Заданне савецкай улады ў тым, каб не абмяжоўвацца вярхушкамі, узварушыць глыбіню народных масаў, уцягнуць іх у актыўнае будаўніцтва новага жыцця, зрабіць з іх свядомых і трывалых грамадзян Савецкага Саюзу. Адгэтуль ясна, якую вялікую значнасць мае беларуская мова — мова большасці жыхарства нашай рэспублікі.**

**Дагэтуль мы рыхтаваліся да паступовага і планавага пераходу на беларускую мову. Цяпер настаў момант, калі трэба ажыццявіць карыстанне беларускаю моваю ў нашых дзяржаўных установах. Мы ведаем, што ў сваёй працы нам давядзецца спаткаць супраціўленне былых расейскіх чыноўнікаў — выхадцаў з беларускай вёскі. Апіраючыся на сваё беларускае паходжанне, яны будуць даводзіць, што хоць яны й беларусы, аднак ня бачаць патрэбы ў беларусізацыі, што ўся рэформа не патрэбна. Гэтыя элементы з былых расейскіх чыноўнікаў будуць усімі спосабамі перашкаджаць нам у нашай працы, але мы цвёрдаю рукою зломім іх супраціўленне, выходзячы з прынцыпу, што ўлада існуе для народа, а не народ для ўлады, што ўлада павінна дапасоўвацца да мовы жыхарства, а не наадварот.**

**У нас не павінны мець месца выпадкі, калі савецкі чыноўнік з пагардаю сустракае сялян, калі тыя звяртаюцца да яго па-беларуску, насміхаецца з іх мовы. Савецкі чыноўнік павінен ведаць і шанаваць беларускую мову, мову беларускіх працоўных масаў. У блізкай будучыні будуць прыняты і апублікаваны пастановы савецкай улады па авалодванню кожным савецкім працаўніком беларускай мовай. Прыдзецца перавучваць нанова ўвесь наш апарат, які дагэтуль беларускай мовай не карыстаўся...».**

Публікацыю падрыхтаваў
**А. КАУКО,**
кандыдат гістарычных навук.
г. Масква.

 

ў Стэфчыных вушах з суровым адыходным маршам для цёткі Фені...

— Заўтра прыйдзе бабка Марфа да нас, заўтра будзе Новы год, — весела паведамляе свайму тату Мілюня. — Заўтра бабка Марфа прынясе нам цэлы кош яблыкаў, — лапоча малая. — Стэфка, напішы маёй мамачцы, каб яна хутчэй ехала да нас. Я схаваю ёй пад падушкай самы вялікі яблык, які прынясе бабка Марфа. Напішы, Стэфка, што я вельмі яе люблю і вельмі яе чакаю.

— Добра, я напішу тваёй маме пісьмо, — кажа Стэфка, — а пакуль не замінай мне, бо трэба яшчэ паўтарыць верш. Заўтра пойдзем у школу, на ёлку, і я там буду чытаць верш пра Дзеда Мароза, а ваш Бронік — дык пра нашага любімага правадыра Сталіна будзе чытаць верш, во!

## Пытанне

— Добры дзянёк вам, паважаная Анжэліка Дармідонаўна, — як можна далікатней павітаўся з сакратаркай Сідар Самсонавіч.

— Скажыце, дарагая, а Самсон Сідаравіч у сябе?

— У сябе. Быў. Ёсць. Але ж ён нядаўна так быў заняты, так быў заняты! — уздыхнула паважаная дваццаціпяцігадовая Анжэліка Дармідонаўна і зноў утаропілася ў маленькае дамскае люстэрка, перад якім яна спешна канчала свой паўдзённы макіяж.

— Дык прабачце, калі ласка, шаноўная Анжэліка Дармідонаўна, Самсон Сідаравіч у сябе? — яшчэ раз, яшчэ больш ціха і далікатна запытаўся ўспацелы Сідар Самсонавіч.

— А што? Ён так вам пільна патрэбны? Быў. Мажліва, і цяпер ёсць. Але ж ён нядаўна так быў заняты, так быў заняты! — ізноў як не прытворна ўздыхнула яна.

— Прабачце, вельмішаноўная Анжэліка Дармідонаўна, але Самсон Сідаравіч паўгадзіны назад вельмі прасіў мяне як майстра ўчастка зайсці да яго. Прабачце...

— Ды што ж вы адразу не сказалі, — сярдзіта бруйнула сакратарка. — Ідзіце!

«Не, каб адразу сказаць канкрэтна! — абуралася яна перад люстэркам. — І ходзяць тут усялякія, амаль дзверы не зачыняюцца, і кожнаму нешта трэба, кожны некуды імкнецца! Дысцыпліны, дзяржаўнага кантролю на іх няма!»

І тут жа нервовы росчырк рукі маладой сакратаркі даў збой, заляпаўшы акруглае ліловае вочка дробнымі пырскамі з-пад чорнай тушы.

Ды Сідар Самсонавіч з усёй сваёй далікатнасцю стаяў ужо перад Самсонам Сідаравічам.

— Ты сядай, прысядзь, дарагі, прысядзь, — ветліва запрасіў Сідара Самсонавіча начальнік. — А ці забыў ужо, як мы калісь з табою цэлы пуд солі з'елі, га?

— З'елі, ой яшчэ як з'елі, — акрылена прапеў падначалены.

— Дык вось, шаноўны ты мой Сідар, ты мой Самсонавіч, хачу спытацца ў цябе на поўным сур'ёзе...

— Пытайцеся, дарагі Самсон Сідаравіч, як, чым магу вам парадзіць, — з цікавасцю настрыўся Сідар Самсонавіч.

— Дык вось, скажы-ка ты мне, братка: што я павінен думаць пра сябе, калі чалавек мне без устыду-сораму прама ў вочы ілжэ? Што я павінен думаць, га, Сідар Самсонавіч? — і ўжо каторы раз папраўляючы вялікія дымчатыя акуляры на арліным пераноссі, ізноў пытаецца. — Што я павінен думаць, ці можаш ты мне адгадаць?

— Што чалавек гэты дрэнны, што ён ні ў якім разе не можа быць сябрам і што яму нельга давяраць, і што яго трэба сцерагацца, і што... — залапатаў падначалены.

— Гэта так, шаноўны Сідар Самсонавіч. Ну а больш, больш ты нічога не можаш сказаць мне?

Сідар Самсонавіч напружліва моршчыць свой вузкі, чырванавата-разгарачаны лоб і думае, думае, што б такога яшчэ разумнага сказаць свайму начальніку, калі той патрабуе ад яго гэтакага падрабязнага адказу. Ён ужо нават не заўважае, як нервова пачынае барабаніць тоўстымі кароткімі пальцамі па гладкім паліраваным стале, безумоўна ж, шукаючы штосьці значнае, разумнае і нават філасофскае.

— ...што чалавек гэты, шаноўны Самсон Сідаравіч, падманваў не толькі вас, але і іншых, што рабіць гэткае яму — як плюнуць (ён ледзь стрымаў сябе, каб паказаць, як гэта робіцца!), што ён нават не пачырванее (Сідар Самсонавіч сутаргава памацаў далонню сваю шчаку) і што ён нават не зніякавее, калі скажа няпраўду, і што чалавек гэты, як відно, прывык маніць яшчэ з маленства і яму ў яго́най хлусні не было ніякіх перашкод, і што іншыя думаюць, што чалавек ён сумленны і не памышляе дрэннага і... і...

— Ну, гэта так, так усё, Сідар Самсонавіч, гэта і казлу зразумела. Але ты, братка, скажы мне канкрэтна, што я павінен думаць пра сябе ў такім выпадку? — раптам нервова ўжо ставіць сваё пытанне Самсон Сідаравіч.

Маленькія, пуставата-шэрыя вочкі Сідара Самсонавіча пачынаюць разгублена бліскаць з-пад такога ж маленькага і разгарачанага лба, на якім ужо добра выступілі кропелькі зайчынага поту.

«Ці не пра мяне ён гэта? — раптам працінае яго гэткая думка. — Інакш бы ён не стаў так настырна і доўга пытацца?»

Усё больш і больш моршчыцца вузкі і потны лоб Сідара Самсонавіча, яшчэ больш пачынаюць барабаніць яго кароткія тоўстыя пальцы па люстранай гладзі вялікага начальніцкага стала. «Было, — успамінае ён, — адзін раз я зманіў яму, зманіў, можна сказаць, па вялікаму рахунку, і вось цяпер, напэўна, ён хоча даведацца, які ж я ўсё-такі чалавек? Адзін толькі раз схлусіў яму, як бог бачыць — адзін толькі раз! Ці не прызнацца лепш зараз, адразу? Усё роўна, ён, як відно, хоча выведаць мяне да канца? Скажу, вось зараз жа і скажу, І хто б падумаў! Адзін толькі раз, тры гады назад, і было ў мяне тое. А калі падумае, што не адзін раз, а некалькі?»

— Дык што, Сідар Самсонавіч, больш нічога не можаш прыдумаць? — чуецца, як праз сон, голас Самсона Сідаравіча.

— Хм.. гм... чалавек, які схлусіў вам не раз і не два — не можа больш мець даверу на ўсё жыццё. Але чалавек, які, можа быць, схлусіў вам адзін раз у вельмі цяжкіх абставінах, можа быць і не вінаваты. Трэба тут, як кажуць, дарагі Самсон Сідаравіч, улічваць абставіны, асяроддзе, час. І такога чалавека нельга падазраваць кожны раз у тым, што ён гаворыць вам няпраўду. Тут трэба яшчэ як след разабрацца. І перш за ўсё — у абставінах, у асяроддзі, у псіхалагічным моманце трэба як след разабрацца. Бывае, што гэткая сітуацыя іншы раз не залежыць ад самога чалавека, а перш за ўсё — акалічнасць, псіхалагічны момант. Тут трэба, як гаворыцца, разаб...

— Не будзем як след разбірацца ў абставінах, Сідар Самсонавіч, — спакойна перабівае яго Самсон Сідаравіч. — Якія там абставіны, якое асяроддзе?! К чортавай матары ўсякія там моманты!

Маленькія, шэрыя вочкі Сідара Самсонавіча, як дзве пустыя адтуліны дубальтоўкі, ліхаманкава ўзведзены на арлінае пераносее Самсона Сідаравіча. І Сідар Самсонавіч гэтак жа ліхаманкава думае, што трэба было яму сказаць усё адразу, адразу, як на духу! А гаварыць цяпер пра той недарэчны выпадак трохгадовай даўнасці такому разумніку, такому ястрабу, як Самсон Сідаравіч, — цяпер позна. Але ж і праўду казаць яму ў вочы?!.

— Дык вось, мой нястомнейшы філосаф, — Самсон Сідаравіч спакойна кладзе сваю агромністую руку на ўздрыгнуўшае плячо Сідара Самсонавіча, — я думаю, што калі чалавек без усялякага ўстыду-сораму нахабна ілжэ мне ў твар, нават не заікнуўшыся пры гэтым, то я ёсць вялікі балван. Так-так, Сідар Самсонавіч, самы вялікі балван, якога можна і на мякіне правесці. Праўду кажу табе, дарагі, а ці не?

— Яно-то вядома, можа... а можа, і не. Тут трэба перш за ўсё ў абставінах, у акалічнасцях разабрацца, у псіхалагічным моманце, — ізноў залапатаў акрылены Сідар Самсонавіч. — Балванаў, вядома, хапае ў наш час і сярод начальнікаў, але гэта ніяк не стасуецца з вамі. Я так думаю, што жыццё — яно вельмі вялікая загадка, калі хочаце знаць. Жыццё — яно, канечне, не поле перайсці, як гаворыцца. Жыццё — яно, як мая жонка кажа, — гэта ж цэлая мука і навука. Так што, канечне, яно вядома, а можа і не. Як галоўны майстар нашага механічнага ўчастка, я думаю, што сабака бывае зарыты і ў саміх абставінах, у ак...

— А скажы ты мне, даражэнькі Сідар Самсонавіч, колькі ж гэта гадкоў мы працуем з табой на нашым заводзе?

— Дваццаць пяць, дваццаць пяць, як лёду, Самсон Сідаравіч. Дваццаць пяць!

Божа мой! Жыццё — яно, канечне, не поле перайсці, як гаворыцца. Жыццё — яно мука і навука, як мая жон...

— Ну вось што, дарагі Сідар Самсонавіч, дазволь яшчэ раз табе паўтарыць, што я не проста балван, а вя-лі-кі балван. І гэта яшчэ раз сёння сказаў мне ты.

— Ды я? Ды не казаў я такога ўрэднага слова, такога дурнога слова, шаноўны Самсон Сідаравіч. Божа барані, не казаў, яй-богу, не казаў і не мысліў нават. Гэта вам падалося, як мая жонка ка...

— Выпі, глыні вось вады лепей, Сідар Самсонавіч. І перадай вялікае прывітанне сваёй жонцы. Чуеш? Вялікае прывітанне!

Як толькі зачыніліся дзверы за перапалоханым Сідарам Самсонавічам, Анжэліка Дармідонаўна лінула ў шклянку вады і дастала з шуфляды маленькую валяр'янавую пляшачку, каб накапаць у пасудзіну колькі кропель супакаення. Але пляшачка была пустой. «Дванаццатага чалавека ўжо муштруе, — падумала з жахам яна, — а яму ж праз месяц на пенсію!»

— Самсон Сідаравіч, — збянтэжана прамовіла яна, — валяр'янка скончылася. Выпіце чыстай вады, чыстай вады выпіце, — як мага лагодней прапанавала яна.

— Нічога, нічога, мая легендарная Анжэла... Нічога страшнага, — нервова забарабаніў па стале ўзбуджаны Самсон Сідаравіч. — Я спакойны, спакойны, як пастамент, чуеш? Але ўсіх, усіх як ёсць нячысцікаў я яшчэ выведу ўсё-такі на чыстую ваду! Быць не можа, каб не вывеў! Быць такога не можа!

— Ой жа, амаль не забылася! — ускліквае сакратарка. — Калі вы, Самсон Сідаравіч, размаўлялі з таварышам, то званіла ваша жонка Галіна Канстанцінаўна.. Прасіла нагадаць, што вы сёння ідзеце на дзень нараджэння.

— Фу ты, чорт, зусім запарыўся, гэта ж трэба так закруціцца на рабоце, — нібы спачувае сам сабе Самсон Сідаравіч. — Ты скажыт-ка мне, Анжэліка Дармідонаўна, які дзень сягоння?

— Пятніца, паважаны Самсон Сідаравіч. 24 лютага 1984 года.

— Машына — дзе?!

— Унізе. Шафёр ужо чакае вас трыццаць пяць мінут — з выпраўкай настаўнога далажыла сакратарка.

рыю кінасцэнарыя «Паўстанне гневу» — аб беларускім партызане, герої грамадзянскай вайны на Палессі Алесю Салаўі, які напісалі ў 1935 годзе Р. Кобец і А. Вольны (да гэтага часу не апублікаваны). Стваральнікаў будучага фільма кансультавалі ўдзельнікі рэвалюцыйных падзей на Палессі А. Ягораў, В. Кнорын, В. Шаранговіч і інш. «Паўстанне гневу», як і «Двойчы народжаны», меркавалася паставіць на беларускай мове. Гатовы сцэнарый быў здадзены ў вытворчасць, але паставіць фільм не паспелі: быў расстраляны ў 1937 г. Вольны, неўзабаве, у 1938 г., арыштавалі (першы раз) і майго бацьку.

Успамін «Садружнасць», надрукаваны ў часопісе «Маладосць» (таксама экспануецца на выстаўцы), мой бацька напісаў у глыбокай старасці (ва ўзросце 87—88 год), пасля таго, як цяжка перахварэў на інсульт, і, безумоўна, гэтыя ўспаміны прадстаўляюць для нас каштоўнасць, бо прысвечаны славутаму артысту У. Крыловічу.

Успамін «На ўмацаванне», які прадстаўлены на выстаўцы («Мастацтва Беларусі». 1988, № 6), мой бацька не пісаў, гэта, па сутнасці, выступленне Кобеца на 30-годдзе фільма «Двойчы народжаны» ў 1964 годзе, у якім ён расказвае аб гісторыі сцэнарыя, аб калектывізацыі, аб М. Галадзеду, А. Чарвякову сучаснікаў якіх ужо не так багата засталося, і таму кожнае слова, расказанае пра гэтых людзей, для нас дорага.

**Упершыню экспануюцца на выстаўцы фотакінакадры фільма «Дняпро ў агні», знойдзеныя мною ў ЦГАЛІ БССР. На экран гэты фільм выйшаў у 1937 г. Мусіць, таму і лёс яго аказаўся трагічным. Цікавасць выклікае пісьмо аднаго з стваральнікаў фільма І. Барашкі да першага сакратара ЦК КП(б)Б В. Шаранговіча, у якім ён піша: «На працягу 18 дзён фільм «Дняпро ў агні» з 13 красавіка г. г. дэманстраваўся на лепшых экранах гор. Масквы ў 18 кінатэатрах і ідзе па РСФСР. З 22 чэрвеня «Дняпро ў агні» пайшоў на экранах гор. Мінска. 26 чэрвеня ў газеце «Рабочий» надрукавана, я лічу, яўна лявацкая, тэндэнцыйная рэцэнзія М. Александровіч пад крыклівай назвай «Зняць з экрану палітычна шкодны фільм», пасля якой заг. культпросам ЦК КП(б)Б тав. Башмачнікаў даў загад зняць фільм «Дняпро ў агні» з пракату...» (ЦГАЛІ БССР фонд № 28, опіс № 1). Далей у пісьме гаворыцца, што культпрос рэспублікі не праваможны забараніць карціну, таму што гэта права належыць выключна Цэнтру, г. з. Маскве, і Барашка выказвае пратэст паклёпнікам: «...Я як камуніст-пісьменнік рашуча пратэстую супраць неабаснаваных выпадаў у адрас аўтараў, якія стварылі першы... фільм аб першых вытоках адзінага фронту працоўных Беларусі супраць капіталізма». «Уся гэта коратка расказаная гісторыя фільма сведчыць аб тым, — піша ў каментарыях да нявыдадзенай кнігі Р. Кобеца доктар мастацтвазнаўства А. Красінскі, — што адносіны да яго крытыкаў былі неабгрунтаваныя і што пераацэнка каштоўнасці фільма неабходна, таму што, нягледзячы на некаторыя мастацкія пралікі, гэты кінатвор — адзіны ў беларускай кінематаграфіі (а таксама ў літаратуры), дзе асвятляецца гістарычная тэма барацьбы пралетарыята напярэдадні рэвалюцыі 1905 г. на Палессі, паказан саюз рабочых і сялян, інтэрнацыяналізм, назіраецца рост сацыялістычнай свядомасці, салідарнасць у барацьбе супраць агульнага прыгнятальніка».**

Прадстаўлены тут і ўспаміны Кобеца аб М. Горкім, якога ён вітаў ад імя рабочага класа Беларусі на станцыі Негарэлае, калі вядомы пралетарскі пісьменнік вяртаўся з Сарэнта ў Маскву.

Прадстаўлены і матэрыялы фільма «Шукальнікі шчасця», 50-гадовы юбілей якога адзначаўся ў 1986 г. У гісторыі беларускага кіно ўпершыню адзначаўся паўвекавы юбілей фільма, які вытрымаў выпрабаванне часам. І гэты юбілей стаў гістарычным фактам. 50-годдзе фільма адзначала не толькі наша рэспубліка. На выстаўцы экспануюцца часопісы «Советиш Геймланд» (1986-87 гг.), у якіх апублікаваны (упершыню!) сцэнарый «Шукальнікі шчасця» на мове ідыш, а таксама артыкул, прысвечаны юбілею фільма. Прадстаўлена і варшаўская газета «Фольксштымe», якая таксама адзначыла паўстагоддзе «Шукальнікаў шчасця». У мінулым кінастужка (праз 52 гады!) адноўлена на кінастудыі імя М. Горкага і выйшла на экраны Саюза. Гэты дакумент, пасланы ва ўсе рэспубліканскія кінапракаты, таксама прадстаўлены на выстаўцы.

На фотаздымках багата прадстаўлен У. Крыловіч: у ролі Мароза («Гута»), Рыгора Лапуха («Двойчы народжаны»), Нічыпара Чэха («Дняпро ў агні»). А таксама артысты Кміт, Цароў, Барысаў, якія пачыналі свой творчы шлях на кінастудыі Белдзяржкіно разам з Бабачкіным і ўпершыню здымаліся ў фільмах, створаных па сцэнарыях майго бацькі.

Прадстаўлены матэрыялы першай усесаюзнай алімпіяды мастацтваў у Маскве (1930), на якой з вялікім поспехам ставілася «Гута», атрымаўшая ўсесаюзнае прызнанне, а таксама інфармацыя з Чэхаславакіі аб вялікім поспеху «Гуты» ў рабочых тэатрах Прагі («Гута» была першай беларускай п'есай, якая ставілася за рубяжом).

За кожным дакументам, прадстаўленым на выстаўцы, паўстае гісторыя станаўлення беларускага савецкага тэатра і кіно. Але я не ставіла сабе за мэту ў гэтым артыкуле пераказ усёй выстаўкі. Даўшы кароткія каментарыі да некаторых матэрыялаў, я хацела зацікавіць чытача, каб ён наведаў выстаўку ў мінскім Доме літаратараў, прысвечаную 90-годдзю старэйшага беларускага драматурга Рыгора Кобеца.

І яшчэ хочацца выказаць вялікую падзяку бібліятэкару Ніне Уладзіміраўне Глобус за яе ўвагу і клопат, праяўлёныя ў арганізацыі гэтай выстаўкі.

**Алена КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Міколу Капыловічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**



 

*Пошукі, знаходкі*

# ШУКАЕМ ПОМНІКІ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА...

**Як паведамлялася ўжо, загадам Міністэрства культуры БССР ад 16 лістапада 1987 года ў Мінску створаны Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, які павінен ва ўсёй паўнаце раскрыць перад намі вялікі і цярністы шлях нашага прыгожага пісьменства ад зараджэння ў сівой даўніне да сённяшняга дня. Пачалася нялёгкая работа па зборы матэрыялаў для будучага музея.**

З мэтай выяўлення і набыцця рэдкіх і старых кніг, закупкі ў насельніцтва этнаграфічных матэрыялаў і была арганізавана сёлета экспедыцыя навуковых супрацоўнікаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Маршрутам яе мы выбралі сумежжа Мінскай і Гродзенскай абласцей, а канкрэтней — Карэліцкі, Навагрудскі і Валожынскі раёны, мясціны, звязаныя з імёнамі многіх цікавых пісьменнікаў як XIX, так і XX стагоддзя.

Першая вёска, якую мы наведалі, была Ярэмічы Карэліцкага раёна. Тут нас сустрэў настаўнік-пенсіянер Аляксандр Канстанцінавіч Ракач, які абяцаў нам аказаць дапамогу ў пошуках матэрыялаў. Ён і сам падрыхтаваў для нас некалькі кніг выданняў Заходняй Беларусі.

Разам з Аляксандрам Канстанцінавічам мы абышлі хаты многіх вяскоўцаў, у якіх маглі быць старыя кнігі, але вынікі былі несуцяшальныя — не надта клапаціліся людзі пра захоўванне сваіх дамашніх рэліквій. На старыя кнігі мы натрапілі толькі ў хаце І. У. Лазуна. Праўда, толькі ўмоўна можна назваць кнігамі тую «трасянку», што прынёс нам гаспадар. Гэта была бязладная кіпа асобных аркушаў з самых розных кніг, без вокладак. Тут былі рэшткі «Учебника русской словесности», нейкага мініяцюрнага выдання пра гісторыю Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча на польскай мове, невядомых беларускіх выданняў. З усёй гэтай кіпы мы змаглі толькі выбраць няпоўную «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры» І. Дварчаніна і «Дудку беларускую» Ф. Багушэвіча, выдадзеную ў 1930 годзе ў Вільні. Як расказаў нам сам гаспадар, гэтыя кнігі ён узяў на гарышчы ў суседа, калі разбіралі яго хату. Яны ад доўгага ляжання пажоўклі, зацяклі ад дажджоў. І было іх вельмі многа.

— Я мяшкамі здавала гэтыя кнігі ў макулатуру,— прызналася дачка гаспадара.

Акрамя гэтай сумнай знаходкі, якая прывяла нас у роспач, у Ярэмічах натрапілі мы ў адной з хат яшчэ на цікавы дакумент, які гаворыць пра пашырэнне беларускай літаратуры ў народзе. Гэта — фотаздымак 1936 года, на якім зняты члены Ярэміцкага рэвалюцыйнага падполля, змагары супраць прыгнёту беларускага народа з боку санацыйных улад буржуазнай Польшчы. У руках падпольшчыкаў — партрэт Янкі Купалы.

Пра папулярнасць твораў Янкі Купалы ў былой Заходняй Беларусі расказвае і сам гаспадар хаты пенсіянер А. І. Пучко, адзін з удзельнікаў Ярэміцкага падполля.

У Ярэмічах мы звярнулі ўвагу на шыльду «Вуліца Алеся Мілюця». Алесь Мілюць — беларускі паэт, які загінуў у 1944 годзе, змагаючыся ў радах Савецкай Арміі супраць гітлераўскай навалы. Вёска Скорычы, дзе ён нарадзіўся і жыў, знаходзіцца побач з Ярэмічамі. Там і цяпер жыве яго родны брат — Іван Макаравіч Мілюць. Мы вырашылі наведаць яго.

Іван Макаравіч, стары, пад восемдзесят гадоў чалавек, адразу ж паказаў нам усё, што засталося ад брата. Як вядома, Алесь Мілюць часта выступаў у заходнебеларускім друку, падборкі яго твораў неаднаразова змяшчаліся ў Мінску ў калектыўных зборніках. Але асобнай кнігай творы паэта не выдаваліся ні разу, так што ў нас няма нават больш-менш поўнага ўяўлення пра яго спадчыну. І вось у нашых руках даволі ёмістыя сшыткі, у якіх рукой паэта перапісаны ці не ўсе яго творы. Простыя, шчырыя, напісаныя крывёю сэрца радкі паэта-патрыёта. Іван Макаравіч дастае і франтавыя пісьмы Алеся Мілюця, адрасаваныя сястры. Нельга без хвалявання чытаць гэтую шчырую споведзь паэта-франтавіка. Вось радкі з самага апошняга пісьма, напісаныя 11 кастрычніка 1944 года, незадоўга да гібелі: «Я буду вельмі шчаслівы, калі гэта мае пісьмо дойдзе да цябе. Я яго пішу... пад варожымі снарадамі, у непагоду. Захоўвай яго, калі атрымаеш, як дакумент нашай роднасці і нашай шчырай братняй любові. На мяне ты не крыўдуй, усё даруй мне і прабач. Я табе таксама даўно ўсё дараваў, нам трэба, каб мы засталіся з чыстымі сэрцамі і сумленнем... Кожную хвіліну я магу быць забіты ці паранены, а таму я пішу табе так, як гэта ўжо апошні раз, такія ўжо ваенныя абставіны, але я глыбока веру, што Бог дасць мне магчымасць вярнуцца дамоў. Вайна ўжо блізіцца к канцу. Вораг дабіваецца, і недалёкі той дзень, калі я з перамогай вярнуся дамоў і тады мы ўсе разам зажывём новым ціхамірным шчаслівым жыццём...»

У Карэліцкім раёне, у вёсцы Палужжа, сустрэлі мы «таварыша вясны» Валянціна Таўлая, сяброўку па вучобе і рэвалюцыйнай барацьбе — настаўніцу-пенсіянерку Кацярыну Сцяпанаўну Главінскую. Як самыя дарагія рэліквіі захоўвае яна ліст Валянціна Таўлая ад 5 красавіка 1945 года, у якім ён запрашаў яе на работу ў Мінск і расказваў аб сваёй працы ў Літаратурным музеі Янкі Купалы і над зборнікам «Шляхі і краты». 28 жніўня 1946 года Валянцін Таўлай выдаў ёй пасведчанне аб тым, што К. С. Главінская накіроўваецца збіраць матэрыялы пра Янку Купалу на тэрыторыі Лідскага і Шчучынскага раёнаў. Мы запісваем на магнітную стужку ўспаміны пра іх сумесную вучобу ў Навагрудскай беларускай гімназіі, пра падпольную барацьбу, арышты, турэмнае зняволенне, пра апошнія сустрэчы. Усе матэрыялы, звязаныя з В. Таўлаем, хоць і вельмі дарагія яны для Кацярыны Сцяпанаўны, яна перадае будучаму літаратурнаму музею рэспублікі.

Шмат цікавых сустрэч было і на Навагрудчыне — радзіме Адама Міцкевіча і Яна Чачота. У Навагрудку мы нават натрапілі на след славутай «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага выдання 1522 года. Яшчэ некалькі гадоў назад кніга была ў асабістай бібліятэцы мясцовага краязнаўцы. На жаль, ён аддаў яе камусьці ў Мінск, сляды яе згубіліся...

Нічога не змаглі мы адшукаць і з былой бібліятэкі Храптовічаў у Шчорсах, адной з багацейшых у Еўропе. Як вядома, большасць кніг з яе была перададзена ў 1913 г. Кіеўскаму універсітэту. Але многа засталося на месцы, у час першай сусветнай вайны яны прапалі. Шмат разабралі мясцовыя аматары кнігі. Нельга паверыць, што частка іх не ўцалела. Жыхары Шчорсаў расказвалі нам пра былога садоўніка Храптовічаў Юшкевіча Антона Антонавіча, які самаахвярна захоўваў альбомы і кнігі з бібліятэкі, спадзеючыся, што гаспадар вернецца па іх. Куды дзелася ўсё гэта пасля яго смерці, ніхто не ведае, бо дзеці выехалі, хто ў Польшчу, а хто жыве ў Рызе і ў Лідзе.

Добра памаглі нам у зборы кніг у абодвух раёнах настаўнікі - краязнаўцы П. П. Сачыўка з вёскі Цырын, Л. А. Навара з Чорнай Гуты, П. М. Шчарбакоў з Кайшоўкі, У. А. Урбановіч з Валеўкі і В. М. Логаш з лесніцоўкі на возеры Свіцязь, які я «адшкадавалі» для музея асобныя каштоўныя выданні з уласных бібліятэк.

Што-кольвечы прывезлі мы і з Валожынскага раёна. Паэт Пятро Бітэль, які жыве ў Вішневе, перадаў нам не зусім звычайны экспанат — рукапіс свайго перакладу на беларускую мову паэмы Адама Міцкевіча «Конрад Валенрод». Зроблены пераклад быў у сталінскіх лагерах у Джэзказгане, куды беспадстаўна кінулі паэта, запісаны зялёнкаю на шматках папяровых мяшкоў для цэменту...

І хоць вярталіся мы не з пустымі рукамі (сярод знойдзеных кніг — «Першы беларускі каляндар «Нашай Нівы» на 1910 год», «Васількі» Ядвігіна Ш. (1914), першыя выданні Якуба Коласа «У Палескай глушы» і «У глыбі Палесся», «Беларускі сялянскі каляндар на 1937 год», шмат кніг заходнебеларускіх выданняў, царкоўна-рэлігійная літаратура, іншыя матэрыялы, мы добра разумелі, што гэта — толькі кропля ў вялікім моры нявыяўленых помнікаў нашай літаратуры.

**Аб'ездзіць жа ўсе гарады і вёскі Беларусі з мэтай выяўлення гэтых помнікаў практычна немагчыма. Таму хочацца звярнуцца да краязнаўцаў, аматараў кнігі, да ўсёй грамадскасці рэспублікі прыняць самы актыўны ўдзел у зборы матэрыялаў для будучага літаратурнага музея, які павінен стаць адным з цэнтраў нашай нацыянальнай культуры. Добра разумеючы важнасць гэтай справы, многія прадстаўнікі грамадскасці ўжо адгукнуліся на просьбу супрацоўнікаў музея і прапанавалі шэраг важных літаратурных помнікаў.**

**Першы, хто даслаў нам цікавыя матэрыялы («Слова аб палку Ігаравым» 1839 і 1868 гг. выданняў), быў інжынер з г. Калініна Маскоўскай вобласці П. М. Шкляеў. Рэдкімі кнігамі, часопісамі, фотаздымкамі з уласных бібліятэк і архіваў падзяліліся з намі Зоська Верас, Арсень Ліс, Алесь Разанаў, Янка Саламевіч, жыхары Вільнюса І. А. Багдановіч і М. В. Маслоўская, масквічы Т. А. Паўловіч-Кліменка, Г. В. Прыбытка, А. К. Каўко, краязнаўца з в. Дуброва Маладзечанскага раёна В. В. Міхасёнак, В. А. Міжанкоўская з Радашковіч і інш.**

Асабліва цяжка з набыццём матэрыялаў па дакастрычніцкаму перыяду. У бібліятэках — іх лічаныя адзінкі. А не сакрэт, што ў многіх дзеячаў культуры, літаратуры і мастацтва, у краязнаўцаў, аматараў-кніжнікаў захоўваюцца ў дамашніх бібліятэках беларускія старадрукі, цікавыя выданні класікаў нашай літаратуры, старыя часопісы, газеты, альманахі.

Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры павінен адыгрываць надзвычай важную ролю ў прапагандзе беларускай літаратуры, у патрыятычным выхаванні нашага народа. Стварэнне яго — гэта наша ўсеагульная справа. Хочацца прыгадаць тут словы Максіма Горкага: «Калі народ умее шанаваць сваіх вялікіх паэтаў, калі ён лічыць іх роднымі сабе — гэта значыць, народ зразумеў вялікае значэнне сваіх творчых сіл і навучыўся паважаць сябе».

Дапамога музею ў зборы матэрыялаў — святы абавязак усёй нашай грамадскасці, кожнага з нас.

Для ўсіх, хто захоча напісаць нам, прапанаваць свае матэрыялы, паведамляем адрас: **220029, Мінск, вул. М. Горкага, 7а, Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры. Тэл. 34-07-61.**

**Ніна ЦВІРКА,**
**загадчыца аддзела беларускай дакастрычніцкай літаратуры Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.**



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 04447

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.